PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (2040) ГОД XL БЕЛАСТОК 18 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## У раенскім сонцы

Бабка Ганна Дамброўская ўпраўляецца на сваім зарослым буйной сакавітай травой і дываном пухатых дзьмухаўцовых шароў падворку. Сабачка з-пад клуні паведамляе яе злосным службістым брэхам, што нехта чужы адчыніў брамку. Небяспечна цяпер жыць у вёсцы, дзе сёння амаль усе адзінокія пенсіянеры, — вось нядаўна ездзілі ашуканцы-бандыты пад відам працаўнікоў „грамадскай апекі", абрабавалі дом адной даверлівай бабулькі. Ніколі невядома, што за справу да чалавека можа мець рэдкі госць!

Неахвотна выказваецца бабка Гандзя пра сённяшняе і былое. Што тут гаварыць — усе ж ведаюць пра Райск, пра дзень 16 чэрвеня 1942 года. Штогод у памятны дзень збіраюцца жывыя. Раенцы і госці. На малебен. Было і ёсць шмат і палітычных слоў. Для памяці жыцця. Бо вёска Райск далей існуе. Хоць выбралі нават брук, разабралі царкву, спалілі дамы і дрэвы, каб нават памяць забіць, каб і следу не было. А сто сорак дзевяць раенцаў па дзесяцёх падалі ў тры бульбяныя ямы за вёскай. Але памяць жыве: і ў камені, і ў муры, і ў чалавеку.

— Адбудаваліся пасля таго. Вярнуліся. Цяпер то можна і вельмі добра жыць. Старым — вядома як; хоць і грошы дастане, то здароўя няма.... — уздыхае бабка Гандзя.

Тады Гандзя ўцякла, не было яе ў вёсцы. Вызвалі яе былі на працу ў Германію ехаць, накіравацца ў арбайтсамт. Проста ў поле пабегла. Не ведала, што з прычыны яе цяжарнасці выкрасляць яе са спіска нявольнікаў. Немцы тады ў чэрвені забілі яе роднага бацьку, цесця і мужа. Забівалі ўсіх мужчын ад пятнаццаці гадоў, а калі мужа ці сына не было, бралі на смерць матку. Хто застаўся, усіх парассылалі. Калі надаваўся, у Нямеччыну, у Прусію, нявольным рабочым бралі. Гандзя пайшла радню шукаць, матулю знайшла аж у Боцьках. Пасля трапіла на чалавека, таксама дасведчанага лёсам, з двума дзеткамі, так і ўсіх траіх — Валю, Марысю і Іванка, пагадавалі. Добры чалавек Іван быў, разумны, лагодны.



*Каплічка на раенскім могільніку.*

Людзі пасля ў Райск паварочаліся, на сваё пустыя пляцы. Хоць на голы камень, але на сваё. Пачалі памаленьку будавацца, спачатку зямлянкі ставілі, хто як мог. І дрэвы садзілі. Вялікія ўжо дрэвы ў Райску, гэта ж паўвеку прайшло! Народжаныя тут пасля вайны ўжо дзядамі сталі. А ці маладых у Райску сёння многа?

— Няшмат маладых у нас. На работах усе. Калі хто блізка працуе, даязджае. Не ведаю, ці хто тут будзе пасяляцца, — хто згэтуль ад'ехаў, наўрад ці вернецца. Можа, хто-небудзь зарызыкуе і застанецца, а старыя то *вжэ... помалу...* Бабаў удоваў шмат, больш, чым мужчын. Хто гэта ведае, чаму больш мужчын уміpae. Гавораць, што ад курэння так мужыкі рана мруць, — маркуе бабка Гандзя. — У нас жыць тут добра, паветра чыстае, зямля родзіць, абы людзям хацелася тут жыць!

Праз дарогу ад сядзібы Ганны Дамброўскай **Васіль Хаманюк** трактарам косіць траву. У той чэрвеньскі страшны дзень было яму дванаццаць гадоў, і гэта яго ўратавала ад смерці. Яго і меншага, дзевяцігадовага брацікa Шурку. Старэйшы брат, васемнаццацігадовы Коля, уцёк, і за яго фашысты забілі маму. Сірот павялі пад карабінамі спачатку ў Бельск. Абодвух хлопчыкаў адправілі ў Прусію разам з трыма іншымі. У той мясцовасці, куды іх адалі, было трыццаць пяць палякаў-нявольнікаў. Вярнуліся ў сорак пятым. Адзін брат застаўся ў дзядулі ў Гацьках, другі ў дзядзькі. Калі найстарэйшы брат ажаніўся, усе разам вярнуліся ў Райск, пабудавалі хату. Колю шмат у чым дапамог цесць. Дапамагла раенцам і дзяржава, дала дэпутаты на драўніну...

Цяпер у вёсцы разам з прысёлкамі будзе каля 130 хат. Маладых гаспадароў, на жаль, мала.

— Маладыя пайшлі ў горад. Па гарадах нашы дзеці. Пакінулі нас, старых. Школа ў Райску ёсць, мураваная, вялікая школа, але дзетак мала, даязджаюць у храбалоўскую. І без немца

*Працяг на стар. 3*



*Ганна Дамброўская пасля раенскай трагедыі нарадзіла дачушку Валю.*



*Васілю Хаманюку тады было дванаццаць.*

## БЕЛЬСКАЕ СВЯТА

„Дні Бельска-Падляшскага гэта свята культуры нашага горада, — сказаў у Бельскім доме культуры, на сустрэчы з аніматарамі культурнага жыцця, бурмістр Андрэй Сцепанюк. — Маю гонар, ад імя Гарадской управы і свайго падзякаваць вам за вашу карпатлівую працу ў дамах культуры, у бібліятэках, школах, Асяродку спорту і рэкрэацыі. Без вашых намаганняў нашае супольнае свята не магло б адбыцца".

Дні Бельска ўпершыню прайшлі ў 1976 годзе. З гэтай пары, задуманыя як свята маладосці, гульняў, Бельскі дом культуры арганізаваў іх кожную вясну. Аж да 1990 года, калі па розных прычынах наступіў перапынак. І вось сёлета Дні Бельска адрадзіліся. І, як быццам дзеля кампенсацыі за чатырохгадовы перапынак, працягваліся яны дзевяць дзён, ад 27 мая да 4 чэрвеня.

Састаўлялі іх самыя розныя імпрэзы: мастацкія выстаўкі, музычныя канцэрты, спартыўныя спаборніцтвы, семінары, прэзентацыі кінафільмаў, сустрэчы і дыскусіі.

У першы дзень у Гарадской бібліятэцы адкрылася выстаўка малюнкаў дзяцей і выдавецтваў на тэму экалогіі — „Зялёныя лёгкія Польшчы". А на стадыёне спаборнічалі ў розных спартыўных канкурэнцыях вучні бельскіх школ. Сярод „падставовак" перамагла пачатковая школа н-р 3, вядомая ў горадзе тым, што ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову і што ўжо гадоў дзесяць будуе сваю гімнастыч-ную залу.

Другога дня ў гарадскім парку — у трыццаціградуснай гарачыні — адбыўся чатырохгадзінны канцэрт. Тысячы бяльшчан атрымалі асалоду ад спевакоў і танцораў, між якімі нямала было і беларускіх калектываў: „Жураўінка" з „тройкі", „Дзявочыя ноткі" з белліцэя, „Васілёчкі", „Маланка", а таксама „Белыя Росы" з Гродна. Адно запрошаным гасцям, сярод якіх зіхацела зорка Уладзімежа Цімашэвіча, час у палкіх праменнях сонца доўжыўся неміласэрна. Пакінулі яны канцэрт далёка перад канцом, а дырэктар БДК Сяргей Лукашук за тое, што не дагадзіў уладам, спадзяваўся нават звальнення з працы. Зразумела, нічога такога не адбылося і дырэктар мог надалей кіраваць ходам Дзён Бельска, аж да завяршальнага канцэрта ў нядзелю 4 чэрвеня, на якім не было ўжо так высока пастаўленых гасцей і такой гарачыні. Але выканаўцы былі не горшыя: гуральская капэла з Істэбнай, гурт лацінаамерыканскай музыкі „Varsovia Manta" з Варшавы, калектыў „Aco Karamanov" з Македоніі і народны калектыў „Гарадніца" з Гродна.

У рамках Дзён Бельска найбольш увагі адводзілася наймалодшым. 1 чэрвеня ў цэнтры горада музыка амаль не сціхала (адно тады, калі адключылі электрычны ток). Спачатку вучні пачатковых школ гулялі ля Бельскага дома культуры, дзе малявалі панараму свайго горада і прыдумвалі самыя неверагодныя танцы-ламанцы. а потым

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*15% wcielonych wiosną tego roku poborowych było karanych za przestępstwa kryminalne, głównie za kradzieże z włamaniem i rozboje. Według analiz Wojskowego Instytutu Badań Społecznych 80% żołnierzy ukaranych w zeszłym roku za samowolne oddalenia miało zaburzenia psychiczne, 30% powtarzało klasy w szkole podstawowej lub zawodowej. 71% postępowań karnych za samowolne oddalenia umorzono właśnie z powodu chorób psychicznych.*
*W ostatnich latach także ponad dwukrotnie wzrosła liczba zachorowań na przypadłości psychiczne wśród kadry zawodowej.*
*(Wprost, nr 22)*

Зборышча псіхічна хворых рыцараў, на дадатак неблага ўзброесных — гэта перастае смяшыць.

***

*Strajkowanie w zamkniętych zakładach stało się mało efektywne i efektowne. Trzeba więc wyjść na ulicę. Podobno po to, by dokuczyć władzy. Politycznym grom „Solidarności" towarzyszy nowy język. Premier staje się geszefciarzem, lumpem i łobuzem. Działacze związku wypowiadają te słowa z prawdziwym ukontentowaniem.*
*(Polityka, nr 21)*

I o co tutaj chodzi, — задумоўваецца з балючай галавой Кавальскі. — Сацыялісты хочуць капіталізму, іх палітычныя ворагі — сацыялізму. Звар'яцець можна!

***

*Дзікае паляванне прэзідэнта Лукашэнкі* — так каментуе сітуацыю ў Беларусі часопіс беларускіх ветэранаў на эміграцыі
*„Зважай" (н-р 3).*

Паляванне Лукашэнкі адбылося ў Менску, а звярынай сталі дэпутаты ад апазіцыі.

***

*Беларусь, беларусы як нацыя, што цалкам апынулася пад акупацыяй і была заціснута паміж молатам і кавадлам рознанакіраваных палітычных, ідэалагічных, рэлігійных, нацыянальных і эканамічных інтарэсаў. У апошнім выпадку размова ішла ўжо аб існаванні цэлага народа, які толькі выходзіў на шлях нацыянальнай незалежнасці і не меў трывалых дзяржаўных традыцый. Тагачасная сітуацыя сапраўды вельмі нагадвала грамадзянскую вайну, калі брат ішоў на брата, беларусы-партызаны палявалі на беларусаў-паліцаяў і наадварот, а ўрэшце адбывалася вынішчэнне народа, своеасаблівая вендэта па-беларуску. На нашых акупіраваных абшарах панаваў закон „джунгляў" і нельга было высвятліць, што было фікцыяй, а што праўдай.*
*(Культура, н-р 18)*

Сёння так нельга пісаць у Беларусі. Адзінай праўдай была савецкая праўда. Адзінымі, якія змагаліся за слушную справу, былі савецкія партызаны. Рэдактары „Культуры" гэтага не разумелі. Тыднёвік на мове „нацыяналістаў" перастаў ужо друкавацца і з'яўляцца ў продажы.

***

*Вось сустракаем мы Дзень Перамогі ў пяцідзесяты раз. Можна было, вядома, зараз пагаварыць і пра фальш казённа-прапагандысцкіх міфаў, якія дзесяцігоддзямі ўкараняліся савецкай уладай у свядомасць нашых суайчыннікаў і якія павінны былі прадставіць перамогу над гітлерызмам, адно як перамогу камуністычнага ладу.*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 18)*

Рэдакцыя „ЛіМа" таксама не зразумела значэння апошняй перамогі камунізму. Гэты заслужаны для беларушчыны тыднёвік ужо не друкуецца. Настаў час „Савецкай Беларусі".

***

*На вёсцы выбары і галасаванне па рэферэндуму фальсыфікаваныя. Тут наменклатура, „вертыкальныя" камуністы, старшыні калгасаў усё трымалі ў сваіх руках. Назіральнікаў ад БНФ сілаю, выкарыстоўваючы міліцыю, не дапускалі кантраляваць галасаванне. З самай раніцы члены выбарчых камісій раз'ехаліся з урнамі па вёсках. Прывезлі адтуль больш выбарчых бюлетэняў, чым было галасуючых. У прывезеных бюлетэнях практычна не было памылак, усё там было правільна, што не здаралася ў гарадскіх участках. Тайнага галасавання практычна не было. На выбары ў сапраўднасці не прыйшло і паловы выбаршчыкаў. Колькасць набралася за кошт фальшывых бюлетэняў, закінутых у „выязныя" урны.*
*(Свабода, н-р 20)*

Што там Лукашэнка, Сталін выйгрываў выбары, маючы толькі 5-працэнтную падтрымку тавырышаў.

***

*Паважаныя таварышы ветэраны! З глыбокім перакананнем хачу сказаць, што як краіна і народ мы маем не толькі правы, але і неабходныя прапасылкі для дастойнага жыцця. Абяцаю, што як толькі мы крыху даб'емся паляпшэння, мы зробім усё, каб дапамагчы вам,* — сказаў прэзідэнт Лукашэнка.
*(Звязда, н-р 83)*

А ветэраны паверылі яго словам, так як верылі Сталіну, Брэжневу ды іншым змагарам за шчасце, дабрабыт і светлую будучыню савецкага народа.

***

*Polska dyplomacja nie doceniła znaczenia niepodległości Białorusi dla bezpieczeństwa Polski,* — сказала былая прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка.
*(Gazeta Wyborcza, nr 121)*

Польская дыпламатыя зрабіла ўсё магчымае, каб мецць супольную мяжу з „братняй Федэрацыяй".

***

*W polskiej polityce jest dążenie do ułożenia dobrosąsiedzkich stosunków z Rosją,* — сказаў у гэтай самай газеце міністр з канцылярыі прэзідэнта РП Анджэй Закшэўскі.

***

*W praktyce jest tak, że państwo nie ma obowiązku kształcenia pielęgniarek, a tylko katechetów.*
*(Wprost, nr 22)*

Адукацыя нацыі заўсёды з'яўляецца раўназдзейнай стратэгічных планаў развіцця дзяржавы.

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** на ўрачыстасці ў **Катыні** ў памяць масавага забойства войскамі НКУС польскіх афіцэраў у 1940 годзе заклікаў Расею і Польшчу выказаць прыклад прымірэння і сяброўства. У катынскім лесе, дзе пакояцца астанкі 4 421 афіцэра, будзе заснаваны могільнік польскіх афіцэраў і ўзведзены **Санктуарый Прымірэння** паміж польскім і рускім народамі. У экуменічным набажэнстве ўдзельнічаў архіепіскап Сава — Праваслаўны ардынарый Войска Польскага.

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** наведаў **Беласток** і ўдзельнічаў у рэлігійнай урачыстасці каранацыі Абраза Божай Маці Міласэрнасці. Перад гэтым госць сустрэўся з калектывам тэкстыльнага камбіната „Фасты", удзельнічаў у пасяджэнні Управы рэгіёна „Салідарнасці" і адказваў на пытанні журналістаў і слухачоў Радыё-Беласток. На пытанне пра паслядоўнасці набліжэння Расеі да польскіх межаў пасля таго, як Беларусь адмовілася ад суверэннасці, Лех Валэнса сказаў: „Нічога страшнага няма. Лічу, што сёння немагчымы Сталін і Гітлер. Кантраляванне Беларусі прынясе для расіян толькі новыя аграмадныя выдаткі. Яны прабуюць палохаць, і толькі ўсяго. Мы павінны ўмацаваць у новую сістэму, не пачынаючы канфлікту са старым". На думку прэзідэнта будучыня застаецца за больш адкрытымі дзяржавамі. Польшча мусіць наблізіцца да Расеі з большым эканамічным патэнцыялам.

**Георгій Таразевіч** — надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы адкліканы з Варшавы ў Менск. Ва ўказе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ад 1 чэрвеня г.г. як прычына адстаўкі падаецца пераход на іншую работу, аднак палітычныя аглядальнікі згодна сцвярджаюць, што гэта помста з боку прэзідэнта і яго- ных паплечнікаў за незалежную пазіцыю пасла ў час выбарчай кампаніі. Прыгадаем, што Георгій Таразевіч галоўнай мэтай сваёй выбарчай праграмы ставіў незалежную, суверэнную Беларусь і выказаўся супраць адмены нацыянальнай сімволікі *(чытайце фрагменты інтэрв'ю з Г. Таразевічам у „Ніве" н-р 22 ад 28 мая г.г., стар. 4).*

**На канферэнцыі „Ад камунізму да дэмакратыі"**, якая праходзіла ў **Кракаве**, лідэр Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" **Зянон Пазьняк**, перасцерагаючы перад адраджаючыміся ідэямі панславізму, пакрытыкаваў Захад, які на яго думку, не хоча бачыць гэтай небяспекі. Наогул Беларусь стала на гэтай канферэнцыі свайго роду напамінам, перасцярогай, што ўзбуджаныя папулісцкімі выступленнямі сацыяльныя спадзяванні ў спалучэнні з эканамічным крызісам могуць давесці, калі не да канчатковага, то прынамсі да працяглага прытармажэння дэмакратычных працэсаў. У канферэнцыі, якую арганізаваў Міжнародны цэнтр развіцця дэмакратыі і нямецкі Фонд Наўмана, прысутнічалі звыш ста палітыкаў і навукоўцаў з 19 краін Еўропы і ЗША.

**Міністр юстыцыі** накіраваў у Вярхоўны Суд апеляцыю супраць змяненняў у статуце **Таварыства нямецкай меншасці на Апольшчыне**, якія дазваляюць стаць членам Таварыства кожнаму жыхару рэгіёна, не зважаючы на яго грамадзянства. Згаданыя змяненні міністр палічыў супярэчнымі з польска-нямецкім трактатам ад 1991 года, у якім словы „нямецкая меншасць у Польшчы" абазначаюць асоб нямецкай нацыянальнасці, але польскага грамадзянства.

**Улады гміны Кузніца-Беластоцкая** вырашылі спаганяць экалагічную аплату ад чужаземцаў, якія выязджаюць з тэрыторыі Польшчы. Усім замежным турыстам будзе прад'яўлена прапанова купіць (добраахвотна) „цаглінкі" па 2 і 5 новых злотаў, а сабраныя такім чынам грошы будуць прызначаны на ахову асяроддзя і каналізацыю.

**Сорак супрацьпажарных каманд** з Беластоцкага ваяводства будуць уключаны ў Сістэму краёвай выратавальнай службы. З ваколіц Бельска-Падляшскага і Сямяціч прызначэнне такое атрымалі пажарнікі з Боцькоў, Бранска, Драгічына, Дзядковіц, Гродзіска, Мельніка, Мілейчыц, Рудкі, Орлі і Ягуштова.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Якую мову будуць вывучаць у Чаромсе?

> Дзіўная хвароба шалее ў вёсцы "Н".

> "Хачу даведацца хто я", — пра лёс людзей ваеннага пакалення.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Вынікі другога тура

Парламент без мянчан, а рэспубліка без парламента — так коратка можна ахарактарызаваць сітуацыю, што склалася ў Беларусі пасля другога тура парламенцкіх выбараў. 28 мая 56% выбаршчыкаў выбралі ўсяго 102 дэпутаты і такім чынам з улікам 18 іх калег, якія былі выбраны 14 мая, парламент налічвае 120 чалавек. Новы парламент не зможа пачаць сваю працу, бо для гэтага патрэбна, каб былі выбраны 2/3 ад агульнай колькасці 260 дэпутатаў, што складае 174 чалавек.

Найбольшую колькасць сваіх прадстаўнікоў правяла ў Вярхоўны Савет Аграрная партыя — 31 дэпутат (25%). На другім месцы апынуліся камуністы — 27 чалавек (23%). Ад Партыі народнай згоды ў ВС увайшлі тры чалавекі, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Сялянскай партыі і Партыі зялёных — па аднаму. Са 120 ужо выбраных дэпутатаў 40 складаюць старшыні калгасаў, 8 — дырэктары прадпрыемстваў, 22 — дзяржаўныя служачыя, 10 — супрацоўнікі адміністрацыі прэзідэнта, 6 — настаўнікі, 4 — юрысты, 3 — вучоныя, 3 — работнікі міліцыі, 3 — медработнікі, 2 — ваенна-служачыя. Па адным дэпутаце выбраны з ліку рабочых, калгаснікаў, журналістаў, супрацоўнікаў КДБ. Дэпутатаў папярэдняга склікання ў новы парламент выбрана 10 чалавек.

### Парламент усё ж такі будзе

Старшыня Вярхоўнага Савета XII склікання Мячэслаў Грыб недасканалым назваў заканадаўства аб выбарах, бо патрэбны кворум 2/3 саставу дэпутатаў быў бы сапраўдны, калі б кожны выбаршчык абавязаны быў ісці на выбары. Пасля двух тураў нявыбранымі застаюцца дэпутаты ў 140 акругах, у тым ліку ва ўсіх акругах Менска. „Мы апынуліся перад такім фактам, што трэба рабіць нейкія захады. Пытанне абмяркоўвалася на пасяджэнні Прэзідыума ВС. Я сустракаўся таксама ў гэтай справе з прэзідэнтам. Усе мы прыйшлі да выніку, што можна зрабіць гэта шляхам унясення змяненняў у наша заканадаўства". Вырашана, што 14 чэрвеня збярэцца нечарговая сесія ВС XII склікання, якая ўхваліць, што кворум парламента XIII склікання лічыцца ад 2/5 саставу дэпутатаў (104 чалавекі). Такім чынам будзе дадзена магчымасць пачаць працу новаму ВС, а ў кастрычніку будуць праведзены давыбары.

### Прэзідэнт і камвольшчыкі

Звыш трох тыдняў працягваўся страйк на Менскім камвольным камбінаце. Прычыны незадавальнення — нерэгулярныя выплаты зарплаты, адпраўка ў працяглы і неаплачваемы водпуск, пагроза масавага беспрацоўя. Бастуючыя камвольшчыкі ў такой сітуацыі накіравалі ў Адміністрацыю Прэзідэнта рэзалюцыю з тэрмінам разгляду ў 10 дзён. Калі ніхто не адрэагаваў на рэзалюцыю, рабочыя наладзілі масавы паход да кіраўніка дзяржавы. Каля 200 прадстаўнікоў працоўнага калектыву дабралася да прэзідэнцкай рэзідэнцыі і цераз міліцыянераў перадалі ліст з просьбай сустрэцца. Спачатку да дэлегацыі выходзілі дзяржсакратар Савета Бяспекі, кіраўнік Управы грамадска-палітычнай інфармацыі, а потым памочнік прэзідэнта, але рабочыя настойвалі на спатканне з „бацькам народа". Урэшце з'явіўся і сам прэзідэнт, які стаў папракаць рабочых за стварыўшуюся сітуацыю на камбінаце. Пасля эмацыянальнага абмену выказваннямі прэзідэнт дамовіўся на візіт на заводзе. Адбыўся ён 1 чэрвеня. Прэзідэнту спадарожнічалі прадстаўнікі Нацбанка і ўрада. У выніку былі прыняты рашэнні аб крэдытаванні камбіната.

### Новае выданне

У Міністэрстве культуры і друку зарэгістравана новая газета — „Народная воля". Заснаваў яе Іосіф Сярэдзіч — былы галоўны рэдактар „Народнай газеты", звольнены з пасады прэзідэнцкім указам. Паводле яголых слоў, калі ніхто не будзе рабіць перашкод, то ў кіёсках новае выданне з'явіцца праз некалькі тыдняў, а штодзённым стане праз месяц—другі пасля выхаду. „З'яўленне „Народнай волі" сапраўды звязанае з воляй народа, — гаворыць Сярэдзіч. — У апошні час да мяне прыходзяць сотні лістоў з прапановай стварыць новую газету. Тлумачыцца гэта тым, што асноўныя выданні знаходзяцца пад прэсінгам улад і не заўсёды аб'ектыўна падаюць інфармацыю. „Народная воля" мае служыць не партыям, фракцыям ці рухам, а ўсяму народу, інтарэсам беларускай дзяржавы, грунтуючыся на трох прынцыпах: дэмакратыя, плюралізм і нацыянальнае адраджэнне".

### Выстралы на выбарчым участку

Непрадбачаны і цяжкавытлумачальны абарот унёс у працэдуру галасавання ўчастковы Раённага аддзялення міліцыі ў Паставах. Проста на выбарчым участку ў вёсцы Стары Двор, дзе па абавязку службы меў ён забяспечваць грамадскі парадак, афіцэр зрабіў тры выстралы з табельнага пісталета. Адна куля трапіла ў спецыяліста сельскай гаспадаркі. Здарылася гэта 28 мая каля 17 гадзіны. Пацярпелы быў апераваны і яго жыццю нічога не пагражае. Матыў і абставіны інцыдэнту высвятляюцца.

## Бельскае свята

*Працяг са стар. 1*

перайшлі ў парк, да канцэртнай пляцоўкі, на якой кожная школа хвалілася сваімі мастацкімі дасягненнямі. А яшчэ пазней у парку паявіліся два смешныя дзядзькі на высачэзных хадулях, вакол якіх бесперапынна тоўпілася дзетвара. Дзядзькі смяшылі не толькі дзяцей, але і дарослых.

2 чэрвеня ў парку сустракалася моладзь сярэдніх школ. Была таксама прэзентацыя мастацкіх дасягненняў кожнай школы. Вучні падрыхтавалі сатырычныя праграмы пра Бельск, а наканец гулялі пад моцныя ўдары маладзёжных рок-гуртоў. Але яшчэ больш моцны ўдар можна было пачуць ці не ў цэлым горадзе ўвечары ў суботу, 3 чэрвеня. Адзін мой знаёмы так потым пракаментаваў гэты рок-канцэрт: „Як быццам Гэндрыкс увакскрос!"

У сённяшні час нават сціплую імпрэзу цяжка сабе ўявіць без спонсараў, а што ўжо казаць пра звышштодзённае гарадское свята. Найважнейшымі тут былі, безумоўна, гарадскія Управа ды Рада. А сярод фірм найлепш паказаліся суполкі „Фармбэст" і „Унібуд". Першая сарганізавала футбольны турнір з удзелам сваіх гандлёвых партнёраў аж з Казахстана (якія і перамаглі ў турніры), а другая наладзіла ў суботу 3 чэрвеня „дзень кліента". Атракцыёнам „дня кліента *Унібуду*" была магчымасць палёту шарам над Бельскам. Дзеля гэтага аднак трэба шмат адвагі (прызнаюся, я сябе не стаў выпрабоўваць).

„Дні Бельска-Падляшскага" гэта, безумоўна, цікавая форма прэзентацыі горада, забавы і адпачынку яго жыхароў. Дзевяць дзён можа крыху даўгавата, цяжка на працягу такога часу ўтрымаць тэмп і дынаміку імпрэзаў ды зацікаўленне імі. Але, у такой ці іншай форме, свята гэтае варта працягваць.

**Мікола Ваўранюк**

## Даражэйшая вада

У апошні дзень мая збіралася Гарадская рада Бельска-Падляшскага. Адзін з пунктаў пасяджэння датычыў сітуацыі пачатковага школьніцтва ў горадзе. Як вядома, ад 1 студзеня будучага года пачатковыя школы пераходзяць у кампетэнцыю органаў тэрытарыяльнага самакіравання. Самаўрады баяцца, што гэта значна абцяжарыць іхні, і так напружаны, бюджэт. Для прыкладу, у Бельску ў мінулым годзе на пачатковыя школы пайшло 28 мільярдаў старых злотаў, калі ўвесь бюджэт горада толькі ўдвая большы. Гарадская рада Бельска накіравала куратару ліст, у якім пералічыла неабходныя для пераняцця школ умовы. Найважнейшыя з іх такія: да новага года павінна быць пагашана ўся задоўжанасць школ; пачатыя інвестыцыі павінны канчацца за кошт бюджэту дзяржавы, а ў новых дзяржава павінна ўдзельнічаць прынамсі ў 50%; настаўнікі мусяць мець ясна вызначаныя правы і абавязкі, а гміны трэба надзяліць адпаведнымі кампетэнцыямі, якія гарантавалі б эфектыўную адміністрацыю школамі.

У дыскусіі чуліся і такія галасы: усе нашы прапановы слушныя, толькі ці хтосьці возьме іх пад развагу? А мы школы мусім і так пераняць.

Адным з цікавейшых момантаў сесіі была дыскусія пра гарадскую лазню. „Да кожнага білета ў лазню, — гаварыў радны Арсень Артысевіч, — горад даплачвае 200 тысяч злотаў. Мы забедныя на такі выдатак". Усе з гэтым аргументам пагаджаліся, толькі ўзніклі два пытанні: што будзе з беднымі ў горадзе і, што зрабіць з будынкам? „Беднымі павінен заняцца Гарадскі асяродак сацыяльнай апекі", — адказаў Артысевіч. Над тым, як у будучыні выкарыстаць будынак, будзе мазгаваць кіраўніцтва Гарадскога камунальнага прадпрыемства. На сесіі, пакуль што, рашэння ў справе лазні не прынялі.

Затое вырашылі павысіць — ад 1 ліпеня — цану вады з гарадскога водаправода і спуску сцёкаў у гарадскую каналізацыю. За кубічны метр вады хатнія гаспадаркі будуць плаціць 49, а прадпрыемствы — 67 грошаў. Метр сцёкаў спушчаных у гарадскую каналізацыю будзе каштаваць 82, а дазвезеных непасрэдна ў ачышчальню — 72 грошы.

**М. В.**

## У раенскім сонцы

*Працяг са стар. 1*

наша вёска можа знікнуць з паверхні зямлі, — кажа дзядзька Васіль. — Гэта якаясьці нядобрая палітыка. Думаю, што ў такім выпадку павінны па вёсках рабіць „пэгээры", калгасы, значыць. Добры калгас гэта добрая штука. Маладыя пойдзе туды працаваць, і адчувае сябе так, быццам на працы быў: пайшоў адрабіў тыя восем гадзін, і толькі твайго абавязку. Тут недалёка ў Гацьках ёсць жыллёвы блёк працаўнікоў „пэгээра", і зусім той калгас някепска трымаецца. Столькі зямлі па вёсках аблогам ляжыць! Я лічу, што калектыўныя гаспадаркі гэта для моладзі добрае выйсце. Яны, маладыя, не папрывыкалі так гаспадарыць як мы, што не маеш ні хвіліны вольнага часу, за работай свету не бачыш. Хацелі б працаваць як у горадзе: зрабіў сваё і маеш час на адпачынак, на *разрыўкі*. Ну а нам, старым, што застаецца? Дабіваемся. Што, цётка Гандзя казала, што я малады? Маладыя во тыя хлопчыкі, што на роварах едуць. Але і яны ўцякуць, пакінуць Райск. Сілай нікога згэтуль не трэба выганяць.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**



*Наймалодшае пакаленне — Марк Нікалаюк і Марцін Чарвінскі.*

## ДОБРААХВОТНІК

Род Панфілюкоў, думаю, меў і мае нейкую асаблівую патрыятычную схільнасць. Мой дзед Лярка, пра якога я ўжо пісаў у 21-ым н-ры „Нівы", падчас І сусветнай вайны служыў у царскай арміі. Мала аднак хто ведае, як ён туды папаў, бо было гэта даўно. А пайшоў ён на вайну па ўласнай волі, добраахвотнікам, пакідаючы дома маладую жонку Агафію (маю бабулю) і пяцёра маленькіх сыноў, найстарэйшы з якіх, Федзя, меў 8 гадоў, а наймалодшы, Іван, няцэлы годзік. Майму тату, Уладзіміру, было тады 6 гадоў. Цяжка зразумець такое рашэнне майго дзеда, селяніна маладога, здаровага і адукаванага, які нядрэнна вёў гаспадарку, не быў ні гультаём, ні п'яніцай, а на першы прызыў пайшоў ваяваць.

А што ён меў на думцы? Напэўна абарону Радзімы, якою лічыў царскую Расію, а можа і самога імператара Мікалая ІІ. І калі б у той час існавала незалежная Беларусь, мой дзядуля Лярка пайшоў бы на вайну, каб яе бараніць. Дзед загінуў у 1915 годзе ў крэпасці Модлін (а не ў Дэмбліне, як я раней пісаў). Не ведаю, куды б направіўся дзед, калі б пражыў, ці да белых, верных Мікалаю ІІ, ці да бальшавікоў. Бо трэба сказаць, што наш род, Панфілюкі, цёпла ставіўся да ідэалогіі камуністаў. Магчыма, што нейкі ўплыў на паводзіны дзеда меў і сентымент: яго брат, Іосіф, быў, як мне гаварылі, вельмі падобны на апошняга рускага цара Мікалая ІІ.

**Мікалай Панфілюк**

## Казіно ў Беластоку

24 мая г.г. фірма „Прогаз Квінс Касіна" ў беластоцкім гатэлі „Крысталь" адкрыла першае ў нашым рэгіёне казіно. У Польшчы яно ўжо васемнаццатае; фірма „Квінс Касіна" мае іх разам тры, у тым у Познані і вялікае — у 1 820 квадратных метраў — у былой Кангрэсавай залe ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве. У былым „Пабе", на 173 метрах, кожны ахвотны і грашавіты можа пайграць у тры віды іграў — на трох сталах у амерыканскую і еўрапейскую рулетку, на двух сталах у „блейк-джэка" (ігра нагадвае папулярнае „вочка") ды на 25 ігральных аўтаматах, у тым на так званых „аднарукіх бандытах", 4 аўтаматах да покера і на чатырох аўтаматах „чырвоны-белы-сіні", спрэжаных з сабою, „прагрэсіўным джэкпоце". Асноўныя стаўкі: у рулетку ад 1 да 5 злотаў, у блейк-джэка ад 10 да 20 злотаў і 50 грошаў у „аднарукага бандыта". Іграць можна толькі наяўнымі залатоўкамі (валюту можна памяняць у канторы). У казіно ёсць маленькі бар з напіткамі. Казіно можа памясціць 90 актыўных ігракоў, адкрытае будзе ад 4-ей вечара да 4-й раніцы. Абслугоўвае яго 50 падрыхтаваных асоб, да таго мае прафесійную ахову. Пры ўваходзе трэба плаціць 1 злот. Кожны наведвальнік рэгіструецца ў цэнтральным камп'ютэры (так ёсць толькі ў Польшчы), увесь час непрыкметна працуюць камеры (так вырашылі польскія законы). Даныя наведвальнікаў сакрэтныя, даступныя толькі міністэрству фінансаў, судам і пракуратуры. Выйгрышы не абкладзены падаткамі, і на жаданне ігрока выдаецца пасведчанне пра выйгрыш.

Абсталяванне казіно поўнасцю прывезена з Амерыкі, найбольш сучаснае. Памяшканне было адаптавана і падрыхтавана на працягу 54 дзён. Даць згоду на існаванне казіно і выказацца на тэму месцазнаходжання гэтай установы мусілі ўлады горада, жыхары раёна, найбліжэйшыя суседзі гатэля „Крысталь". Ад вуліцы Лінярскага замуравана ўсе вокны (перш за ўсё для бяспечнасці), поўнасцю зменены інтэр'ер. Вельмі прыгожа і шыкоўна выглядаюць сцены ў шпалерах у серабрыста-шэрыя расліны.

У казіно за 1 злот можа ўвайсці кожны, з цікавасці, паглядзець. Бывае, што цяга да азарту настолькі вялікая, што самі кліенты ці разам са сваімі сем'ямі просяць, каб забаранілі ім уваход, каб зрабілі ім „каранцін" ад ігры. З прычыны азартнай хваробы, бывае, людзі абанкручваюцца, разлучаюцца іх сем'і. А гэта мае быць забава, культурнае праводзене часу, а не хвараблівы азарт!

Анджэй Шэлёнг, генеральны дырэктар казіно фірмы „Прогаз Квінс Касіна" лічыць, што казіно стане атракцыёнам Беластока і гатэля „Крысталь". Пакуль што няма магчымасці пашырыць памяшканне ў гатэлі. Яшчэ невядома, які поспех будзе мець гэтая ўстанова, ці „аплаціцца" гэты „інтарэс" ва ўсходняй Польшчы. Магчыма, што казіно будзе вельмі прыцягальным месцам правесці вольны час для турыстаў і бізнесменаў з усходняй Еўропы. Фірма атрымала канцэсію на 6 гадоў ад Міністэрства фінансаў; у будучыні, калі будзе магчымасць і патрэба, будзе старацца яе прадоўжыць.

Уваход у казіно неабавязкова ў фраках ды смокінгах, але не будуць ахвотна бачыць асобеняў у расцягнутых швэдрах ці дзіравых „адыдасах". Тут мае быць паўната культуры і добрых паводзін для ўсіх слаёў насельніцтва.

— Няпраўда, што казіно, як часам паказваюць у фільмах — „пячора ігры і паўсвету" ды „кубло зла", — сказаў менеджэр Анджэй Падгурскі. — Тут у цішыне і культурнай кампаніі можна выйграць вялікія грошы, калі ў чалавека шчасце, за пару жэтонаў. На прагрэсіўным джэкпоце „чырвоны-белы-сіні" ў Варшаве адзін чалавек за адзін жэтон выйграў 300 мільёнаў старых злотаў. На праграму джэкпота ніхто не мае ўплыву, нічога ў ёй не можам пераставіць на сваю карысць, нічога не можа падкруціць нейкім дротам ці нечым іншым і сам ігрок. Ніколі невядома, калі аўтамат скажа „стоп" і на тваю долю аддасць усе прагрэсіўна сабраныя працэнты ад усіх жэтонаў іграючых на спрэжаных джэкпотах, і якая будзе гэта сума. Можна выйграць ужо ў першы дзень, а нам, уласнікам казіно, астаецца плаціць шчасліўцу.

Правяла я невялікае апытанне сярод прахожых на вуліцы Ліповай і Лінярскага.

— Я не буду выказвацца на тэму такіх спраў, у маім узросце гэта непрыстойна! — адказала дама гадоў каля шасцідзесяці.

— Я думаю, што гэта забаўка для багацеяў, я туды не пайду, хіба што з цікавасці загляне мой муж, але я туды яго пушчу неахвотна! — такая думка ў пані з дзвюма пукатымі сеткамі.

— З цікавасці? Чаму не, калі за адну залатоўку можна ўвайсці... Але нашто рэгіструюць?! Жывем жа ў Еўропе, не? — падняў кучаравыя бровы дзядзька ў кепцы.

— Конечно, посмотрим. Если будут у нас лишние деньги, побудем полчасика. Игровые автоматы у нас есть, интересно посмотреть рулетку.

— Э-э-э, гэта добра для мільянераў! Калі іх на новыя грошы лічыць! Ты тут думай, чым дзяцей накарміць! — невясёла ўсміхнуўся мужчына каля трыццаці з хлопчыкам.

— Хутчэй зруйнуешся, чым выйграеш! Мой прадзед маёнтак у карты прайграў у Канах. Я не буду туды нават бліжай падыходзіць! — адказаў мне пан у шэрым касцюме, засоўваючы акно ў сваім шэрым „фіаціку".

**Міра Лукша**

# Крок на шляху да дэмакратыі...

У рэдакцыйным артыкуле „Выбарчая кампанія" ( „Ніва" ад 21.05. б.г.) знайшлося вельмі многа цікавых сцвярджэнняў, якія ў асноўным тычыліся „кроку беларусаў на шляху да дэмакратыі", а папраўдзе — недэмакратычнай выбарчай кампаніі ў РБ і беспрэцэдэнтных паводзін прэзідэнта гэтай, усё яшчэ дэ-юрэ, незалежнай дзяржавы. Маю ўвагу найбольш прыцягнулі апошнія радкі артыкула, якія дазволю сабе прывесці. *Слухаючы лукашэнкаўскіх прапагандыстаў, чалавек толькі тады ўсведамляе сабе, якім кашмарам з'яўляецца манаполія ўлады на сродкі масавай інфармацыі і брак свабоды слова.* На шчасце мы, якія жывем у Польшчы, можам толькі здалёк прыглядацца да гэтай сітуацыі і пакуль на свабоду ў польскіх сродках масавай інфармацыі наракаць не можам. І трэба тут прызнаць, што польскія мас-медыі вельмі аб'ектыўна прадстаўлялі палітычную сітуацыю ў РБ. Зрэшты, што таксама не малаважнае, а на што звярталі ўвагу прадстаўнікі БНФ, так папраўдзе толькі польскія газеты прынеслі поўную інфармацыю пра красавіцкі „інцыдэнт", калі паліцыя па загаду Лукашэнкі пабіла апазіцыйных дэпутатаў. Тут трэба аднак сказаць да канца і дадаць, што аб'ектыўна гэтыя падзеі стараліся прадстаўляць расейскія газеты, якія — у адрозненні ад маскоўскага тэлебачання — амаль незалежныя. Гэта ж расейскаму журналісту за інфармацыю, што ў РБ можа дайсці да грамадзянскай вайны, пагражаў прэзідэнт Лукашэнка, гаворачы, што зоймецца ім КДБ.

Вернемся аднак да польскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Позна ўжо сёння згадваць пра тое, што можна было з іх даведацца пра падзеі ў Менску перад выбарамі і рэферэндумам. Варта аднак даўжэй затрымацца пры ацэнках іх вынікаў, якіх поўна было ў польскіх газетах на працягу ўсяго паслявыбарчага тыдня. І тут уражвае яшчэ адна рэч — трэба ж памятаць, што польская прэса нячаста цікавіцца справамі свайго ўсходняга суседа. Шырэйшыя артыкулы можна знайсці толькі тады, калі адбываецца сапраўды нешта важнае. А да выніку рэферэндуму не спосаб ставіцца абыякава, нават з польскага пункту гледжання. Здаецца, што вынікі беларускага рэферэндуму змогуць мець у далейшай перспектыве таксама і для Польшчы немалое значэнне. Праўда, як сказаў мне адзін польскі публіцыст: *Нам палякам намнога прасцей глянуць на ўзнікшую сітуацыю з дыстанцыі — гэта ж яшчэ не мы... Але хто ведае, магчыма праз нейкі час...* Хіба менавіта таму ўсе паслявыбарчыя ацэнкі ў польскай прэсе былі перапоўненыя здзіўленнем, жалем і страхам.

Здзіўленнем — бо ў Польшчы цяжка сабе ўцяміць (зрэшты, як і ва ўсёй Еўропе на Захад ад Буга), як гэта магчымае, каб народ сам адракаўся ад незалежнасці ды аплёўваў сваю нацыянальную сімволіку.

З жалем — бо пасля некалькіх гадоў Польшча зноў будзе мець на ўсходзе мяжу не з малой Беларуссю, а з вялікай імперыяй, якая — хаця сёння яшчэ не надта магутная — то ўсё ж такі не патраціла сваёй пазіцыі.

Страхам, урэшце — бо, як сцвярджаюць многія каментатары, знайшліся мы перад пагрозай адраджэння расейскага вялікадзяржаўя.

* * *

Наколькі яшчэ ў перадвыбарчую пятніцу і суботу некаторыя палітычныя назіральнікі аптымістычна разлічвалі на тое, што беларусы не дазволяць хаця б на змену нацыянальнае сімволікі, то ўжо ў панядзелак загалоўкі ў польскіх газетах не пакідалі ніякіх сумненняў. Беларусы станоўча адказалі на ўсе пытанні вымушанага прэзідэнтам рэферэндуму. Польскіх назіральнікаў найбольш здзіўляла тое, што беларусы так ахвотна пазбавіліся незалежнасці. *Гэта небывалая ў гісторыі сучаснай Еўропы падзея,* — сказаў у тэлевізійнай праграме „Пульс дня" Здзіслаў Найдэр з Атлантычнага клуба. Выступаючы ў гэтай перадачы Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, параўнаў стыль кіравання беларускай дзяржавай да таго, што адбываецца ў азіяцкіх рэспубліках. У сваю чаргу несумненны аўтарытэт у беларускім асяроддзі ў Польшчы Сакрат Яновіч, каментуючы вынікі рэферэндуму для „Газеты выбарчай" сказаў, што гэта проста самагубства. *Гэта смяротны прысуд для беларускае мовы і культуры — яны ўжо не адродзяцца. А калі нават, тады не раней, чым памрэ пакаленне савецкага народу. Я спадзяваўся,* — гаворыць Сакрат Яновіч, — *што супраць беларускае нацыянальнасці выкажацца многа людзей, але не спадзяваўся, што аж толькі людзей выкажацца за расейскую мову і супраць нацыянальнай сімволікі. Для мяне, як беларускага пісьменніка, гэта дзень жалобы.* І хаця ўсе гэтыя параўнанні гэта, як лічыць Я. Вапа, права артыстаў, то хто ведае, ці С. Яновіч не мае рацыі...

Амаль такі самы тон публікацый, змешчаных у адной з найбольш папулярных штодзёнак „Жыцце Варшавы". Прыводзячы меркаванні прадстаўнікоў Рады Еўропы, якія заявілі, што нягледзячы на невялікія няправільнасці парламенцкія выбары і рэферэндум з'яўляюцца важным крокам на шляху да дэмакратыі, каментатар варшаўскай штодзёнкі сцвярджае, што за такой павярхоўнай імпрэсіяй скрываецца іншая, больш горкая праўда. Менавіта — беларусы дэмакратычна ідуць са сваім прэзідэнтам проста ў абдымкі Масквы. Гэта ў аўторкавым выданні газеты. У сераду — у сваю чаргу — маскоўскі карэспандэнт „Жыцця Варшавы" задумоўваецца, ці савецкі герб і сцяг стануць прычынай эканамічнага цуду? *Адсталая эканамічна Беларусь* — чытаем у каментарыі — *якой больш чым палова прамысловасці гэта вайсковыя прадпрыемствы, а вялікая большасць грамадзян і без рэферэндуму карыстаецца расейскай мовай, бо беларускай не ведае, не мае ахвоты далей змагацца за сваю незалежнасць. Ніколі яе зрэшты не мела. Зараз Беларусь з'яўляецца першай рэспублікай, якая яўна перад усім светам гаворыць, што хоча выразнага набліжэння, а папраўдзе — аб'яднання з Расеяй. Але ці хоча гэтага Расея? З часам таксама і тыя, якія прагаласавалі 4 разы „ТАК", пачнуць пытаць свайго прэзідэнта, чаму расейскія фабрыкі не хочуць са стратай для сябе супрацоўнічаць з брацкімі, але нерэнтабельнымі прадпрыемствамі ў Беларусі. Запытаюць адначасова, чаму пад савецкім гербам і сцягам жывецца ім таксама дрэнна, як пад Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам. Бо ж галоўнай прычынай дзеля якой падтрымалі яны Лукашэнку ў рэферэндуме была надзея на паляпшэнне ўзроўню жыцця. Пры дапамозе грамадзян дзяржавы, якой кіруе, Лукашэнка стварыў прэцэдэнт для ўсяе СНД,* — падсумоўвае аўтар.

Газета „Нова Еўропа" звярнула ўвагу на расейскі аспект справы. *Невядома, што больш паўплывала на тое, што пасля нацыяналістычнае эйфарыі першых месяцаў пасля абвяшчэння суверэнітэту, нейкі час ужо жыхары Беларусі перасталі адчуваць сябе беларусамі: эканамічны ціск, няясная этнічная сітуацыя ці проста пачуццё, што адны не ператрываюць... Для Польшчы гэта між іншым абазначае, што мілітарна будзе яна межаваць з Расеяй не толькі праз Калінінградскую вобласць*".

„Газета выбарчая" з серады прынесла чарговыя звесткі з Менска, якія хіба нікога не настройвалі аптымістычна. *Бел-чырвона-белы сцяг перастаў лунаць над прэзідэнцкай рэзідэнцыяй. Знялі яго не нейкія працоўныя, а людзі з прэзідэнцкай адміністрацыі. Пазней беларускія нацыянальныя колеры парэзалі яны ножніцамі на кавалкі, якія падпісваў шэф прэзідэнцкай адміністрацыі. Гэтых сцэнаў,* — піша менскі карэспандэнт газеты, — *не паказалі ўжо ў беларускім тэлебачанні.*

У чацвер са старонак газеты „Жэчпасполіта" можна было даведацца пра паслявыбарчыя боязі беларускіх палякаў, якія лічаць, што пагоршыцца цяпер іхняя сітуацыя, бо падтрымалі ж яны БНФ. *Існуе таксама магчымасць,* — чытаем далей, — *што ўлады паспрабуюць карту польскай меншасці выкарыстаць у адносінах з Польшчай. Ужо зараз ніжэйшыя ўраднікі гавораць, што калі Польшча імкнецца ў НАТО, то яны палякам дапамагаць не будуць.*

У той жа чацвер у „Газеце Выбарчай" чытаем, што ў рэшце рэшт крызіс у лагеры дэмакратаў не даспадобы прэзідэнту Лукашэнку. *Не маючы сур'ёзных апанентаў, ён не будзе мець супраць каго накіраваць гнеў грамадства, не можна будзе абвінавачваць нікога ў тым, што мяшаюць пераадольваць нестабільнасць, беспрацоўе, рост злачыннасці, усё большыя цэны і інфляцыю.*

Калі гаварыць пра вынікі выбараў, польскія газеты не шмат пра іх пісалі, зазначаючы толькі, што на цэлы беларускі парламент прыйдзецца яшчэ пачакаць, бо ў першым туры выбрана толькі няцэлых 10% усяго саставу. Усе газеты звярталі таксама ўвагу на той факт, што кандыдаты ў дэпутаты не мелі ніякай магчымасці, каб перад выбарамі неяк прадставіць свае праграмы. Недапушчальным многія назіральнікі назвалі факт тэлевізійнай дэманстрацыі падчас перадвыбарчай кампаніі фільма „Нянавісць", у якім БНФ быў паказаны на адным узроўні з беларускімі фашыстамі.

* * *

Беларусы паверылі прэзідэнту, які, не ўмеючы паспяхова змагацца з крызісам у Беларусі, ізноў адклікаўся да папулісцкіх лозунгаў, што эканамічнай сітуацыі не ўдасца палепшыць, што не спосаб праводзіць эканамічныя рэформы, якія ж удараць у ягонага выбаршчыка. Лукашэнка вырашыў шукаць падтрымкі грамадства ў штучных пытаннях, абяцаючы, што інтэграцыя з Расеяй прынясе рашучыя змены. Многія задумоўваюцца, ці будуць гэта змены на лепшае. Адказ, амаль заўсёды, даюць адмоўны.

**Яраслаў Іванюк**

# Сустрэча меншасцей у Варшаве

Хельсінскі фонд абароны правоў чалавека сарганізаваў у днях 20—21 мая ў Варшаве сустрэчу дзеячаў нацыянальных меншасцей ў Польшчы. Такія сустрэчы праходзяць — раз на квартал, раз на паўгода — ужо два з паловаю гады. Гэтая была прысвечана, галоўным чынам, дыскусіі над прававым вызначэннем сітуацыі нацыянальных меншасцей у Польшчы.

У першы дзень сустрэчы прысутнічалі намеснік генеральнага пракурора Стэфан Снежка і прэс-сакратар Галоўнага каменданта паліцыі Анджэй Пшэмыскі. З іхнім удзелам вялася дыскусія аб злачынствах у адносінах да меншасцей, сярод меншасцей і аб умышальніцтве з боку дзяржавы. Спадар Пшэмыскі сказаў, што паліцыя не вядзе ніякай нацыянальнай статыстыкі. „Паліцыя ловіць бандытаў і злодзеяў, — гаварыў ён, — і не займаецца нацыянальнымі меншасцямі. Злачынцу не пытаем пра нацыянальнасць". Намеснік генеральнага пракурора пацвердзіў, што не атрымаў ад праваахоўных органаў ніякіх інфармацый наконт нацыянальных меншасцей. Паслухаўшы прысутных на сустрэчы, абодва яны заўважылі, што лягчэй распрацаваць здавальняючыя прававыя развязкі, чымсці змяніць не заўсёды прыхільнае да „іншых" стаўленне грамадства.

Стэфан Снежка, падсумоўваючы дыскусію, сцвердзіў, што добра было б выпрацаваць дарогу пераказу інфармацыі ў паліцыю і пракуратуру аб такіх фактах, як нішчэнне помнікаў, выбіванне вокнаў, маляванне на сценах абразлівых надпісаў. Такія дробныя на першы погляд інцыдэнты, праз тое, што адбываюцца вакол нацыянальных мяншынь, набываюць зусім іншае значэнне. Дзяржаўныя службы абавязаны змагацца з такімі з'явамі, як неталерантнасць, ксенафобія.

Чарговым пунктам сустрэчы было азнаямленне з ходам прац у Сейме над стварэннем Закона аб нацыянальных меншасцях. Гаварыў пра гэта Генрык Кроль, пасол ад нямецкай меншасці, старшыня сеймавай падкамісіі, якая выпрацоўвае закон. „Пункт 24 праекта новай Канстытуцыі гарантуе польскім грамадзянам, прыналежным да нацыянальных і этнічных меншасцей, — гаварыў пасол Кроль, — права на захаванне сваёй тоеснасці, мовы і культуры. Але, калі ўзнікае гаворка пра сэнс асобнага закона, дык тут погляды паслоў разыходзяцца. Для нас правы меншасцей — гэта пуп зямлі, але ў парламенце з'яўляюцца яны малаістотнай справай".

Важную ролю ў Сейме маглі б выконваць прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Былі нават прапановы, каб гарантаваць меншасцям восем парламенцкіх крэслаў. „На сённяшні дзень, аднак, — сказаў Кроль, — гэта нерэальна. Добра, калі будзе ўтрыманае звальненне меншасных кандыдатаў з пяціпрацэнтнага парога, а то і гэты прывілей можа быць скасаваны".

Генрык Кроль перасцерагаў перад лішняй эйфарыяй, нават калі Закон аб нацыянальных меншасцях будзе прыняты. Бо можа быць гэта проста дрэнны закон, які абернецца супроць зацікаўленых. Дзяржаўныя ўлады на розных міжнародных форумах будуць хваліцца ім, маўляў, во якая ў нас дэмакратыя, але змест закона чытаць ніхто ўжо не стане. Таму працы над ім ідуць марудна, на кожным кроку паяўляюцца сумненні. Але вядуцца таксама намаганні, каб змяніць бягучую палітыку дзяржавы ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Усе пагадзіліся, што спосаб фінансавання культурнай дзейнасці — канкрэтных мерапрыемстваў, а не арганізацый — з'яўляецца некарысным. Міністэрства культуры і мастацтва павінна выдзеліць грошы меншасным арганізацыям, а яны самі будуць імі распараджацца. Воплескамі была сустрэта прапанова Янкі Сычэўскага, каб дзяржава стварыла такога тыпу культурныя ўстановы, як Беларускі цэнтр культуры ў Беластоку і фінансавала іх дзейнасць.

**Мікола Ваўранюк**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Воўк у авечай шкуры

Дзесьці пад канец дваццатых гадоў у нашы Кучкуны стаў прыязджаць уніяцкі святар, які з вясковцамі размаўляў па-беларуску. Наведваў ён усіх жыхароў у іх хатах, асабліва часта заходзіў да тых сем'яў, у якіх чакалі вяртання сваіх блізкіх з турмаў. Імкнуўся ён прыпомніць жыхарам вёскі, што ў мінулым дзейнічала тут уніяцкая парафія, што была і свая святыня — касцёл. Заахвочваў ён прыходзіць на набажэнствы ў капліцу на вайсковых могілках у Стоўбцах.

Ва уніяцкай капліцы багаслужбы спраўляліся на беларускай мове. Каб прыцягнуць вернікаў да сябе, згаданы святар не называў цаны за рэлігійныя паслугі, а браў столькі, колькі яму давалі. Ад бедных дык і зусім не браў ён грошай. І менавіта ў такі спосаб пачаў ён вакол сваёй асобы аб'ядноўваць сялян, хаця ніхто з іх афіцыйна не пераходзіў з праваслаўя ва уніяцтва. У выніку уніяцкая капліца ў Стоўбцах заўсёды была поўнасцю набітая народам. Падчас навукі святар часта тлумачыў незразумелыя звароты старажытнацаркоўнаславянскай мовы, якія паўтараліся ў літургічных тэкстах, што таксама падабалася людзям. Мне, тады трынаццацігадоваму хлопцу, запамяталася тлумачэнне слоў „глаголить", „пренепорочная" ці малітоўнага звароту „иже еси на небесех", якое зрабіў ён у час усяночнага трывання ў 1938 годзе.

Да дзейнасці уніяцкага святара варожа ставіліся праваслаўныя свяшчэннікі. Аднойчы стаўбцоўскі благачынны падчас пропаведзі сказаў наступнае: „Паявіўся ў нашым прыходзе воўк у авечай шкуры — уніят. Ён прыкідваецца вялікім дабрадзеем і нават рэлігійныя паслугі робіць задарма, але ў сапраўднасці ён імкнецца ўкрасці вашы душы ды адарваць вас ад святога праваслаўя". Падчас споведзі свяшчэннікі патрабавалі ад вернікаў прысягнуць, што яны ўжо ніколі не пойдуць ва уніяцкую капліцу. Але некаторыя сяляне, хаця і прысягалі, далей наведвалі капліцу на вайсковых могілках і карысталіся уніяцкімі дармовымі паслугамі.

Дзейнасць уніяцкага духоўніка не абмяжоўвалася толькі да канфесійнага пытання. Быў ён надта актыўны і ў іншых дзялянках грамадскага жыцця. Заслугай святара было стварэнне сельскагаспадарчага гуртка (kółka rolniczego), якое ён сам узначаліў, ды згуртавання вясковай моладзі (Związek Młodzieży Wiejskiej). У рамках гэтых арганізацый вялася беларуская культурна-асветніцкая дзейнасць. Моладзь ставіла п'есы „Купалінка", „Модны шляхцюк", „Птушка шчасця" і іншыя. Паглядзець пастаноўкі самадзейнікаў з'язджалася моладзь з навакольных вёсак, а нават з шляхецкага засценка і з горада. Святар прапагандаваў таксама чытальніцтва беларускіх газет. У вёсцы сталі выпісваць „Шлях моладзі", „Калоссе", „Самапомач" і „Хрысціянскую думку". Сяляне куплялі таксама беларускія календары.

Пасля 1935 года адміністрацыйныя ўлады пачалі ўздзейнічаць на абмежаванне беларускай культурнай актыўнасці. Забаронена было ставіць беларускія п'есы. Святар прыдумаў спосаб на ўрадавую забарону і гурток самадзейнікаў стаў рыхтаваць адну кароткую польскую сцэнку і адну беларускую п'есу і такім чынам маглі выступаць на сцэне.

Аднак наступ на беларускасць узмацняўся. Паліцыя дапытвала самадзейнікаў, у тым ліку уніята. Па невядомых прычынах у 1937 годзе уніяцкі святар адмовіўся ад старшынства ў сельскагуртку. Былі праведзены перавыбары і старшынёй сельскагаспадарчага гуртка стаў Іван Стома, а маладзёжную арганізацыю ўзначаліў Адам Шалькевіч — аграном. У пачатку 1938 г. улады канчаткова забаранілі ставіць беларускія п'есы. У знак пратэсту моладзь ухваліла пратэст да павятовых і ваяводскіх улад у сувязі з дыскрымінацыйнай палітыкай у адносінах да беларусаў і рашыла распусціць сваю маладзёжную арганізацыю. Дарэчы, пра гэта ў „Хрысціянскай думцы" н-р 8 (192) ад 1 сакавіка 1939 года з'явіўся адмысловы артыкул аўтарства нейкага Іповіча. На заканчэнне сходу сабраныя праспявалі патрыятычную песню „Ад веку мы спалі, ды нас разбудзілі". Пасля некалькіх дзён паліцыя і шпікі ў штацкім высвятлялі, хто ініцыяваў спяванне гімна, рабілі вобыскі ў пошуках камуністычнай літаратуры. Каб пазбегнуць праследаванняў дзевяць чалавек падаліся за дзяржаўную мяжу ў Літву, Латвію і Эстонію.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# РАДЗІМА —РОДЗІНА

### Частка XIV

Цытую далейшыя фрагменты выказвання Сцяпана Багнюка:

„Ну, значыцца, я табе сказаў аб тым, што жыды гэто разумны людзі і што яны павінны быці ў беларускім правіцельстві. Ты ж паглядзі на гэты цэлы Блізкі Усход. Там жэш жыве жменька жыдоў і больш як сто мільёнаў арабаў. А як толькі дойдзе да вайны, то жыды так лупят гэтых арабаў, што толькі шэрсць з іх леціт у ўсе бакі. А чаму так ест? А таму, што жыд разумны, а араб дурак. Ну то з кім нам трэба звязвацца: з дуракамі, чы з разумнымі? Панятно, што з разумнымі. От, таму я нічого ні панімаю, чаму гэто мы так моцно за тых арабаў трымаліся. Трэбо нам жыдоў паддзержваці, а ні арабаў. От ты, Аляксандэр, будучы ў Мінску, вытлумач гэто тым чудакам, што сягодня Беларусяй крутят. Ну трэбо знаці і ячшэ аднэ, што тая Беларусь то яна для многіх жыдоў ест родзінаю. У Беларусі радзіліся і памерлі іх дзяды і бацькі, ну і яны нарадзіліся ў Беларусі. Значыцца, Беларусь для іх родзіна.

Ты ж падумай, Аляксандэр. Калі Амэрыка ні можэ абысціся без жыдоў, то і Беларусь тым больш без жыдоў нічого ні парадзіт.

Ну, а чаму гэто так, што Беларусь да нічого добраго без жыдоў ні дойдзе?

Па-першае, то таму, што жыды знают языкі, а без языкоў то сегодне ў шырокі свет не лезь, бо ты ні будзеш панімаці, што загранічнікі гаворат да цябе, а загранічнікі то ні будут панімаці, што ты гаворыш да іх. Ну, а што ты можэш у свеці залатвіці, калі ты ні панімаеш іншых, а іншыя ні панімают цябе.

Па-другое, то ўсюды ў свеці капіталісты, паліцікі, лекары і ўсяке вялікє начальство то жыды. У іх руках фабрыкі, банкі і гандэль, то вядомо, што беларускія жыды з імі дагаворацца хутко, а беларусы з імі ні чарта ні дагаворацца.

Па-трэцяе, то я табе скажу так, што наш народ то такі, што ён здольны часам толькі да дурнотаў. Рускі, паляк, украінец чы беларус то або нап'ецца напавал, або ў карты ўсё прайграе, або з бабамі ўсё прапусціт. Ну то такі, скажэм міністэр, калі ён учора спіўся, поўнасцю спаласкаўся пры картах, або ўсё прапусціў пры бабах, то аб чым ён сягодня будзе думаці седзячы ў міністэрстві? А будзе, Аляксандэр, думаці ні аб гасударственных дзелах, але толькі аб тым, дзе б узяць грошай, каб зноў напіцца, пайграці ў карты, або пагуляці з бабамі. Усё ў канцы канцоў зводзіцца на гэтым свеці да грошай. І нават калі б такі міністэр зарабляў сотні мільёнаў, то яму ні хваціт. Ну і ўрэшці знойдзецца хтось такі, што яму грошы даст, а калі ні знойдзецца, то ён сам пачне камбінаваці або красці. А знаеш сам, калі такі міністэр чы дырэктар возьме лапоўку, то ён ужэ да канца жыця куплены і будзе ён служыці ні гасударстваві але якомусь жулікаві".

**Алесь Барскі**

# Каб казка стала быллю

У братоў Грым ёсць такая казка: служыў Янка ў пана сем гадоў і захацеў вярнуцца дамоў, да маці. Даў яму пан за верную службу вялікі кусок золата. Па дарозе дадому спатыкаў Янка розных людзей, з якімі ён карысна мяняў сваё дабро: золата на каня, каня на карову, карову на парася, парася на гуску, гуску на асёлку, якую, недалёка роднага дому, неасцярожна ўпусціў у студню. І такім чынам, з лёгкім сэрцам, пазбыўшыся ўсіх клопатаў, вярнуўся Янка да маці.

Недалёка Бельска адзінокая жанчына вяла гаспадарку. Гадоў ёй больша-ла, а сіл меншала. І вырашыла яна памаленьку памяняць дабытак свой на грошы, а грошы тыя пакласці на ашчадную кніжачку, каб там, разам з працэнтамі, расло яе багацце на ўсякі выпадак, на чорную гадзіну.

24 студзеня 1980 г. прадала яна каня. У бельскі банк палажыла 20 тысяч злотаў. 30 снежня 1982 г. банк дадае да рахунку 1 359 злотаў працэнтаў, а 11 красавіка 1988 года яшчэ 8 923 і 48 злотаў працэнтаў за 1982—1987 гады. 1 верасня 1988 года прадала карову і занесла ў банк 119 584 злотаў. Хутка, бо ўжо 4 студзеня 1989 г. дапісваюць ёй 11 922 злотаў а неўзабаве, бо ўжо 25 таго ж самага студзеня яшчэ 14 670 злотаў працэнтаў. 11 лютага 1992 года зноў дапісваюць, цяпер ужо аж 151 194 злотаў, а 10 сакавіка 1995 г. яшчэ 84 500 злотаў працэнтаў. І так вось разам, за каня і карову, ашчадная жанчына мае ўжо 412 200 старых злотаў, што пасля дэнамінацыі складае 41 злот і 22 грошаў.

Цяпер можна пайсці ў краму і купіць за гэтыя грошы пяць кілаграмаў ялавічыны. Карова з канём аказаліся казачна лёгкімі. А працэнты ж не адпісвалі, толькі дапісвалі!

Oszczędzaj i ucz oszczędzać!

**А. Вярбіцкі**

# Як Эдзік стаў прафесарам

Каб у Польшчы атрымаць званне прафесара, трэба пачаць працаваць у сярэдняй школе, або, будучы універсітэцкім настаўнікам, напісаць габілітацыйную працу. Вядома, той другі варыянт больш складаны, але вызначае вучонаму вельмі прэстыжнае месца ў грамадстве.

Нядаўна трапіла ў мае рукі габілітацыйная праца Эдварда Пруса азагалоўленая „Polityczna działalność emigracyjna byłych kolaboracjonistów z Europy wschodniej i południowo-wschodniej". Была яна надрукавана невялікім тыражом — 1000 экземпляраў — выдавецтвам Шлёнскага навуковага інстытута ў Катавіцах. Можа не варта было б на гэтую кніжку звяртаць увагу, калі б не стаў ён аўтарытэтнай крыніцай інфармацыі для шматлікіх журналістаў і маладых навукоўцаў. У 1994 г. я пісаў у „Ніве" (н-р 16) пра артыкул Яцка Вілямоўскага, апублікаваны ў „Przeglądzie Tygodniowym" ад 5.12.1993 г., у якім аўтар прадстаўляў генерала СС Браніслава Камінскага як беларускага нацыяналіста. Пасля прачытання працы Э. Пруса мне стала вядома, адкуль у Вілямоўскага такія веды. Некаторыя фрагменты артыкула з „Przeglądu Tygodniowego" былі проста адлюстраваннем „навуковых" дасягненняў Эдварда Пруса.

Прус вядомы быў у асяроддзі гісторыкаў у Польшчы як спецыяліст па справах украінскага нацыяналізму. „Władyka Świętojurski" (1985), „Herosi spod znaku tryzuba" (1985), „Atamania UPA" (1988) — гэта найбольш вядомыя яго кніжкі, выдадзеныя шматтысячным тыражом, у якіх змаганне ўкраінцаў за сваю незалежную бацькаўшчыну бачылася выключна ў катэгорыях: „faszyzmu", „rasizmu", „darwinizmu społecznego", „pogardy dla innych", „kulturowego monizmu".

У сваёй габілітацыйнай працы пан Эдзё цэлы раздзел прысвяціў беларускім нацыяналістам. „Mimo szykan ze strony ukraińskich faszystów, — піша прафесар Прус, — Białorusini chlubią sie własnym ofensywnym podziemiem, które działało w ZSRR i Polsce zaraz po wojnie — i wytyka na przykład własowcom, że ich podziemie było tak efemeryczne, że nie zdołało nawet wchłonąć w siebie żołnierzy RONA, którzy woleli pójść w szeregi białoruskiej „samoobrony". „Samoobrona" ta rzeczywiście składała się w dużej mierze z żołnierzy wsławionej SS-brygady Bronisława Kamińskiego, walczącego rzekomo o sprawę „Suwerennej Białorusi" (стар. 30).

Прус аднак не піша, дзе і якія „беларускія нацыяналісты" велічаюць ката Беларусі, паляка па паходжанні, а расейца па выбару Браніслава Камінскага, як свайго нацыянальнага героя. Але для гэтага вучонага факты ніколі не мелі ніякага значэння. Чытачоў „Нівы" можа яшчэ зацікавіць, што паводле Пруса дзеялася на нашай Беласточчыне зараз пасля вайны. А менавіта прадаўжала тут дзейнасць беларуская „Самаахова", якой рады — як вядома — перапоўнены былі эсэсаўцамі з брыгады Камінскага і ўласаўцамі. Было таксама „Pogotowie Akcji Specjalnej — Narodowego Związku Wojskowego lansującego teorię „Polski Narodowej"... co nie było na rękę nacjonalistycznej „samoobronie" i na tym tle dochodziło czasami do starć zbrojnych między nią a oddziałami NZW, kierowanego przez Romualda Rajsa („Burego")". З таго вынікае, што ўсе ахвяры ў Залешанах, Занях, Вульцы, Пухалах-Старых — гэта вынік змагання „Бурага" з беларускай нацыяналістычнай „самааховай". Можна аднак сказаць, што гэты мафіёзі ў галіне навукі і так былі вельмі ласкавы беларусам. Мог бы, напрыклад, „Бурага" зрабіць беларускім нацыяналістам, так як зрабіў ім Браніслава Камінскага. Заслугі аднаго і другога для беларускасці былі падобныя.

Падчас чытання такіх распрацовак у мяне заўсёды ўзнікае пытанне, хто такім асобеням даў званне „прафесара", хто адказны за такую прафанацыю навукі. Пра маральнасць не варта нават згадваць, бо штосьці такое ў рэчаіснасці існуе толькі ў разважаннях філасофаў.

**Я. М.**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У днях 21—30 мая г.г. сэйненскі асяродак „Пагранічча" арганізаваў сустрэчы дзяцей усякіх нацыянальнасцей. Два гады раней дзеці будавалі дом, год таму — гняздо, а сёлета — святыню. У маляўнічае ўрочышча Шэльмент (над возерам Шэльмент) прыехала 36 дзяцей. Сярод іх былі літоўцы з Сэйн, палякі з Вільні, украінцы з Баняў-Мазурскіх, стараверы з Габовых-Грондаў, палякі з Сэйн і беларусы з Гарадка. Нашая група ў саставе: Гося, Сільвія, Магда, Эля і Андрэй была наймалодшая. Усе яны вучні пятага класа.

Ужо ў першы дзень дзеці падзяліліся на шэсць груп. У кожнай такой групе былі ўсе нацыянальнасці. Штодзень, па чарзе, дзеці выконвалі новыя працы пры пабудове святыні. Памагалі ім мастакі, акцёры, студэнты, журналісты. Разам са святыняй паўстаў фільм. Пачытайце тады, што дзеялася за гэтыя дзесяць дзён. Думаю, што найбольш спадабаюцца вам фрагменты дзённікаў, якія пісалі дзеці.



*Устанаўленне стрыжня святыні.*



*Вітак і Весё рыхтуюць месца для нашай святыні.*

# Святыня нашых мараў

### Панядзелак — 22.V.1995 г.

Я прачнулася ў восем гадзін раніцы. Трыццаць хвілін да снедання. Трэба было абудзіць сяброў, якія не мелі гадзіннікаў.

На снеданне было шмат смякоццяў. Не дзіва, мы пасяліліся ў гатэлі першага класа.

Пазней усе мы пайшлі на нашую гару. Ледзь падняліся на яе, такая была высокая. Да таго баяліся кляшчоў. З гары, на якой мела стаяць нашая святыня, распасціраўся чароўны краявід. З левага боку як люстра блішчэла возера Шэльмент, ззаду — лес, а насупраць красаваліся ўзгоркі, парослыя дрэвамі, цягнуліся даліны, азёры, забудовы. Небасхіл быў такі шырокі, што было відаць Літву. Мы селі на сваёй гары і пачалі з ёй асвойвацца. Кожны расказваў пра свае мары, што хацеў бы мець у жыцці. Найбольш рассмяшыла мяне апавяданне хлопчыка, які хацеў мець палац, а ў ім процьму „чыпсаў" і крыніцу з кока-колай.

Пазней мы прыступілі да працы. Сёння я рабіла вітраж. Нашую майстэрню вяла пані Мірка. Ніколі я раней не думала, што так цікава працаваць пры стварэнні вітража. Пры дапамозе паяльніка мы спалучалі каляровыя шкельцы і атрымоўвалі фантастычныя кампазіцыі — караблі, ракі, слімакі, птушкі, кветкі.

А чатырнаццатай гадзіне быў абед. Пасля я працавала пры вітражы. Скончыла ўрэшце сваю кветку. Дзень быў вельмі малы. Я нават не заўважыла, як ён прамінуў.

Пасля вячэры ўсе дзеці сабраліся ў вялікай зале. Сённяшнюю вечарыну падрыхтавалі стараверы. Яны спявалі свае рэлігійныя песні. Цікава было паслухаць расказ пра іх царкву-маленну і іхнія звычаі. Спаць пайшла я вельмі позна.

*Ася, 15 гадоў*

### Аўторак — 23.V.1995 г.

Пасля снедання трэба было ісці на нашу гару. У выніку ўчарашняга вандравання мне балелі ногі, але я нікому не прызнаваўся. Думаю, што многія адчувалі тое ж самае.

Сёння я буду працаваць у кузні. Разам са мной чатыры (незнаёмыя) дзеўкі. Працаваў да абеду цяжка. Дзяўчаты толькі і прыгаворвалі, каб за іх усё зрабіць. А як ім адмовіш, калі ўсе яны прыгажуні і весялухі. Усе мы расказвалі сабе пра святыні, у якія ходзім маліцца.

У час абеду далучыў да нас айцец Лявонцій Тафілюк са сваімі вучнямі Асяй і Гжэсем. Прыехалі яны з Бельска-Падляшскага. Будуць весці майстэрню пісання ікон.

Пасля абеду пайшлі мы ўсе на гару. Там было ўжо вызначанае месца для святыні. Святар разам з беларусамі, украінцамі і староверамі праспяваў „Христос Воскресе". За трэцім разам спявалі ўжо ўсе. Супольна маліліся і думалі, каб шчасліва пабудаваць нашую святыню. Добра сталася, што самыя цяжкія працы выконвалі нашыя старэйшыя сябры з „кадры". Апрача месца пад святыню капалі яны дарогі, іншыя разбіралі стадолу ў пана Юзка, такога смешнага дзядзькі. Да вечара я працаваў у кузні. Трэба было зрабіць усім дзеўкам званочкі і падковы. Нястомны пан Гэнё — наш каваль — таксама працаваў як вол. Я прынамсі атрымаў ад дзевак запрашэнне на вечарыну.

*Мірак, 16 гадоў*

* * *

Вечарам пачаліся выступленні літоўцаў з Сэйн. Пані Аста расказвала пра ўсякія віды літоўскіх крыжоў, а дзяўчаты і хлопцы спявалі песні і вучылі нас сваіх танцаў. Выступалі яны ў нацыянальным адзенні. Дзяўчаты былі вельмі прыгожыя.

*Адам, 16 гадоў*



*Айцец Лявонцій Тафілюк і ўдзельнікі сустрэчы моляцца, каб пабудова святыні прынесла ўсім радасць і шчасліва завяршылася.*

### Серада — 24.V.1995 г.

Я чуць не спазнілася на снеданне. Учора да поўначы гуляла з новымі сябрамі.

Пасля снедання я пайшла маляваць ікону. Вучылі нас прафесіяналы з бельскай школы іканапісу — айцец Лявонцій, Ася і Гжэсек. Хаця ў гэты дзень было безліч камароў і мерзлі рукі, праца была цікавай. Нашае маляванне здымалі кінааператары. Пазней зробяць фільм. Аднак пры пісанні іконы я нават забылася аб іх.

Пасля абеду далей я працавала над іконай. Калі я скончыла свайго Ісуса Хрыста, усе мяне хвалілі. Мой вобраз аздобіць кнігу малітваў.

*Оля, 14 гадоў*

* * *

Мой дзень пачаўся радасна. Раніцай пазваніла мама і сказала, што вельмі мяне кахае. Я таксама расказала пра сябе. Ужо працавала я ў кузні і рабіла свечкі. Сёння буду пісаць сваю малітву.

Майстэрня нашая знаходзіцца каля лесу. Веяў моцны вецер. Спачатку я працавала з паняй Гандзяй. Яна падказвала мне як пісаць малітву. Гэтая задача заняла мне палову дня.

У сваёй малітве прасіла я Бога, каб не было голаду, вайны, каб дзеці ўсіх веравызнанняў з сабой сябравалі, каб мая сям'я была заўсёды здаровая і шчаслівая, і каб мая сястра ніколі са мной не сварылася.

Пасля абеду я далей працавала ў майстэрні кнігі. Трэба было нарысаваць малюнкі да сваёй малітвы. Упершыню ў жыцці я пабачыла старыя кнігі. Мы рабілі свае старонкі па ўзору старадрукаў. Малітва пачыналася аздобнай літарай-ініцыялам. Літары я пісала гусіным пяром. Пані Уля, якая кіравала графічным афармленнем старонкі, дапамагала мне падабраць колеры. Побач мяне працавала яшчэ пяць дзяўчынак і хлопчыкі. Усе мусілі напісаць сваю малітву на роднай мове.

Вельмі падабаліся мне Пшэмак, Кацпэр, Ясё і Дамінік. Кацпэр усіх рассмяшыў, бо папрасіў Бога, каб яму мама купіла камп'ютэр.

*Кася 15 гадоў*

* * *

Вечарыну арганізавалі ўкраінцы. Дзяўчаты і хлопцы выступілі ў сваіх нацыянальных уборах. Найбольш мне падабаліся шаравары, такія шырокія штаны з бліскучага матэрыялу.

Пані Аня, апякунка ўкраінскай групы, расказала пра грэка-католікаў. Дзеці спявалі свае рэлігійныя песні. Мне спадабалася песня пра казака.

*Гражына, 14 гадоў*

### Чацвер — 25.V.1995 г.

З самага рання я разам са сваім сябрам Міркам заняўся сталяркай. Цэлы дзень мы габлявалі дошкі, рабілі ўсялякія патрэбныя для святыні прылады. Ніхто не хацеў нам дапамагчы.

*Андрэй, 15 гадоў*



*Кавальская майстэрня. Пан Гэнё паказвае як зрабіць званочак.*



*Кніжная майстэрня. Дапамагае пані Уршуля.*

* * *

Ад раніцы я працавала ў майстэрні, дзе робяць свечкі. Наш сябра Марцін сам вёў гэтыя працы. Марцін ужо трэці раз удзельнічае ў сустрэчах „Паграніччa". Ён не толькі ведаў як рабіць свечкі, але і ўсё цікавае, што адбывалася тут год ці два назад.

Марцін — старавер. Ходзіць ужо ў сярэднюю школу. У іх свечкі могуць выконваць асобы прызначаныя настаўнікам (так называецца іх святар). Наш сябра меў ужо дазвол свайго настаўніка. За дзень я зрабіла тры свечкі.

*Соня, 14 гадоў*

* * *

Сённяшнюю вечарыну арганізавалі беларусы. Чатыры дзяўчынкі і адзін хлопец расказвалі пра сваю школу ў Гарадку. Сільвія расказала пра Святога Младзенца Гаўрыла Заблудаўскага. Пра школу так, як беларусы, ніхто не расказваў. Калі адна дзяўчынка пачынала гаварыць сур'ёзна, яе сябар Андрэй зводзіў усё ў жарты. Разам з імі выступілі пан Лёнік, які іграў на гітары, і рэдактар „Зоркі". Беларусы расказалі пра Гарадок, гісторыю, забавы, працу. Зачаравалі ўсіх сваімі песнямі. Ад іх мы навучыліся спяваць „Чараўніцу", „Бай стары", „Як забава, то да рання". Супольна спявалі яшчэ дзве гадзіны.

*Янка, 14 гадоў*

## Пятніца — 26.V.1995 г.

Разам з Робертам, які быў найвышэйшы і найздаравейшы, мы насілі жэрдкі на месца пабудовы. Святыня набывала сваю форму. Цяжка мы працавалі ўвесь дзень. Добра, што гаспадар, у якога мы разабралі на святыню стадолу, прывёз матэрыял пад гару.

Памагалі нам усе старэйшыя сябры — Весё, Юрка, Лёнік, Вітак, Павел, Томак.

Заўтра мусім скончыць пабудову. На вечарыну запрасілі нас дзеці з Вільні. Расказвалі пра сябе, свой касцёл, горад. Наканец развучылі мы песню пра Казя.

*Павел, 17 гадоў*

* * *

Пасля вечарыны разам з сябрамі гаварылі мы пра нашую працу, пазней спявалі „Чараўніцу". Шкада, што тут не дазваляюць нам глядзець тэлебачанне. Хочацца ўжо дахаты. А сёння Дзень мамы. Кіраўнік нашага гатэля сказаў, што самі будзем плаціць за свае тэлефонныя размовы. Аж страшна думаць, што будзе ў апошні дзень, я ж два першыя дні безупынна тэлефанавала па сваіх сябрах і сваяках.

*Аня, 12 гадоў*

## Субота — 27.V.1995 г.

З самай раніцы мы пачалі працаваць пры сваёй капліцы. Кожная група мела за задачу прыдумаць сваю каплічку і паставіць яе пры ўваходзе на гару. Нашую прыдумаў Лёнік. На сваёй капліцы мы нарысавалі шэсць іконак: Ісуса Хрыста, Святога Саву, Святога Міколу, Святога Андрэя, Багародзіцу, Святога Гаўрыла Заблудаўскага. На нізе была Святая Еўфрасіння Полацкая, заступніца ўсіх беларусаў, якія пражываюць на чужыне. Лёнік упрыгожыў каплічку нацыянальным узорам. Усе захапляліся нашай працай, бо яна была іншая як усе і каляровая.

*Дыяна, 12 гадоў*

* * *

Пасля абеду я перакладаў на літоўскую мову малітву Святога Францыска Асізскага. Усе мае сябры і сяброўкі з групы таксама перакладалі гэты тэкст на свае родныя мовы. Пазней пані Малгося вучыла нас спяваць. Найменш напрацаваліся палякі, бо не трэба было ім ні перакладаць малітвы, ні прыдумваць мелодыі.

Вечарам усе пайшлі ў тэлевізійную залу. Там мы паглядзелі фільм пра цыганоў. Доўга не хацелася мне спаць.

*Марак, 14 гадоў*

## Нядзеля — 28.V.1995 г.

Урэшце дзень адпачынку. Пасля снедання ідзем у касцёл, што ў Еляневе. Пяшком, зразумела. У адзін бок было 5 кіламетраў.

*Лешак, 13 гадоў*

* * *

На абед была курыца і марожанае. Зусім быццам у нас у нядзелю ў хаце. Пасля абеду ўсе пабеглі на возера купацца. Радасці не было канца. Старэйшыя дзеці кідалі нас у возера. А мы папраўдзе толькі і таго да іх пхаліся.

*Алік, 12 гадоў*

* * *

Вечарам пайшлі мы на сваю гару. Святыня была ўжо пабудаваная. Нашыя апекуны закапалі звон у зямлю і наладзілі вогнішча. Усе спявалі „Чараўніцу". Доўга мы не сядзелі, бо камары не давалі спакою. Не памагала нават мазь, якая мела адстрашаць гэтыя насякомыя.

*Бася, 13 гадоў*

## Панядзелак — 29.V.1995 г.

Раніцай мы пайшлі прыбіраць гару і ставіць свае каплічкі. Пасля вячэры пачалася самая ўрачыстая частка нашай сустрэчы.

Усе апрануліся па-святочнаму, узялі свечкі, званочкі. Кнігу з нашымі малітвамі нёс Андрэй, ва ўкраінскім нацыянальным уборы. Вераніка надзела сваю белую сукенку ад першай камуніі. На панадворку гаспадара (паня Юзя) мы дагаварыліся як будзем ісці на гару. Тыя, што мелі найперш свае каплічкі, ішлі наперадзе, мы былі апошнія.

— Не бядуйце, апошнія будуць першымі, — пацяшала нас пані Бажэна. Так і было. Усе, што адспявалі малітву пры сваёй капліцы, станавіліся ззаду.



*Гарадоцкая група пры сваёй капліцы,*

Пры сваёй капліцы мы праспявалі „Христос Воскресе" і сказалі „Отче наш". У святыню ўвайшлі мы першымі. Але перш чым увайсці, самыя маленькія хлопчыкі адкапалі з зямлі звон, які пачапіў на званіцу пан Вітак. Іншыя дзяўчаты з другой гары прынеслі агонь. Увайшлі яны ў нашую святыню па белай дарожцы з палатна. Падпалілі вогнішча. У сярэдзіне запахла ладанам і свечкамі. Пазней усе дзеці чыталі свае малітвы і спявалі малітву Святога Францыска. Наш пераклад гучэў так:

*Славім Цябе Божа і ўсе творы твае,*
*а перш за ўсё нашага брата-сонца,*
*што дзень дае, а Ты цераз яго свеціш.*
*Яно прыгожае і прамяністае, а сваім бляскам дае нам уяўленне пра Цябе, Вялікі Божа!*

Вельмі падабалася нам гэтая песня, хаця праўду кажучы ніколі яшчэ ў сваёй царкве мы па-беларуску не спявалі.

Пасля нашай багаслужбы вярталіся мы ў гатэль.

Яшчэ вечарам дзяўчаты з Сэйн паказвалі свае габелены. Пра іх паўстанне і працу ў ткацкім гуртку расказвала іхняя апякунка — пані Уля.

А пазней мы доўга не маглі заснуць. Трэба было развітацца з сябрамі, абмяняцца адрасамі і зноў пачаць думаць пра школу. Заўтра ўсё скончыцца. Раз'едземся па сваіх мясцінах, да бацькоў і сяброў.

*Марыся, 12 гадоў*

P.S. Па жаданні дзяцей імёны аўтараў дзённікаў зменены. Тэксты апрацавала і пераклала з польскай, украінскай, старажытнаславянскай і літоўскай моў

**Ганна Кандрацюк**

**Фота Ганны Кандрацюк і Лявона Тарасэвіча**



*Уваход на гару, На версе віднеецца сімвалічная канструкцыя святыні са званіцай.*



*Беларусы спяваюць малітву Святога Францыска.*

# Боль кахання, боль смерці

*(заканчэнне,*
*пачатак у папярэднім нумары)*

Багдановічаўскія творы пра смерць уражаюць сваёю шматграннасцю. Сярод іх ёсць вершы рэфлексіўнага характару („Жывеш не вечна чалавек", „Шмат у нашым жыцці ёсць дарог", „Пентаметры", „Дзед", „Разрытая магіла"), ёсць вершы, у якіх у непасрэдны спосаб перажывае паэт блізкасць уласнай смерці („Не кувай ты, шэрая зязюля", „Даўно ўжо целам я хварэю", „Я бальны бессхрыдлаты паэт", „У краіне светлай, дзе я ўміраю"), ёсць творы ўздымаючыя праблему смерці за радзіму, смерці — выніку вынішчаючай народ нядолі („Як Базыль у паходзе канаў", „Цёмнай ноччу лучына дагарала", „Краю мой родны! Як выкляты Богам", „Ян і маці", „Над магілай мужыка"), смерці ад самагубства („С. Палуяну", „Дзве смерці", „Белым кветам адзета каліна"), вершы ўздымаючыя матыў смерці ў прыродзе („Свяча бліскучая зіяе", „Страцім-лебедзь", „Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі") і ў рэшце рэшт творы пра смерць маці пры родах, у якіх у нязвыкла выразны спосаб пераплецены матывы смерці і кахання („Пачуццю цёмнаму падлеглая", „З енкам дзіцё ты раджаеш", „Смертию смерть поправ..." і інш.).

Самыя раннія творы Максіма Багдановіча пра смерць адметны сваім канцэптуалістычным зместам. Можна ў іх адчуць уплыў літаратуры, звязанай з песімізмам, які культывавалі дэкадэнты і з'яўляюцца яны адной з нешматлікіх спроб выказання незразумелага абурэння смерцю, бунтам супраць яе.

Часта для паказання прамінання карыстаецца ён сімвалічным вобразам адзінокай вандроўкі чалавека, у якім крыжуюцца дзве перспектывы: першую вызначае вера ў яе сэнс, другую — пастава скептыцызму і надпаленай веры.

Вядучае месца займае тут твор „Разрытая магіла", які засяроджвае ў сабе цэлы трагізм і чалавечага быту, і прыроды. Ёць тут і ноч, павяванні ветру, восеньскі дождж, перадсмяротны баязлівы хаос у прыродзе, і страх чалавека, перад якім адкрываецца бездань. На ўвагу заслугоўваюць таксама творы пра смерць за айчыну, за бацькаўшчыну. Гарманічны вобраз роднай прыроды дазваляе „зняважыць" смерць і ўкладае ў сэрца перажываючай асобы пачуццё лагоднага і меланхалічнага асваення з гэтай балючай свядомасцю канчаючагася жыцця. Гэтае асэнсаванне смерці і звязанага з ёю цярпення ёсць тут вынікам пераносу яе на фон смерці за ідэю. Заўважаем таксама, што добраахвотная смерць на вайне прымае часта ў Багдановіча форму гераічнага самаахвяравання. Часта гэтыя творы перапоўнены шэрагам рамантычна-алегарычных сімвалаў. Ёсць і вобразы імглы, і магіл, і ночы. Вобразы гэтыя аднак не з'яўляюцца, як у дэкадэнтаў, запярэчаннем вартасці жыцця, а толькі адбіткам самога жыцця, адлюстраваннем сапраўднай нядолі роднага краю.

У творчасці Багдановіча знаходзім творы пра самагубства. Самагубная смерць прымае ў яго паэзіі філасафічны характар, ёсць свядомым выбарам нябыту, бунтам супраць абсурду жыцця і адмовай існавання ў грамадстве варожым чалавеку, а асабліва паэту. У гэтых творах бачым, што фізічная смерць заўсёды папярэджана псіхічнай смерцю лірычнага героя. Паказанне праблемы самагубства не прымае аднак у Багдановіча формы асуджэння. Тут ёсць больш спроб зразумення гэтай пастановы і пошукі яе прычын.

Пішучы пра праблему смерці ў творчасці Максіма Багдановіча трэба ўспомніць санет „Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі", у якім паэт звяртаецца да характэрнага для рамантыкаў выкарыстання ўсходняга экзатычнага элемента. Твор гэты перапоўнены глыбокай верай ва ўваскрэсенне, у адраджэнне, у перамогу над смерцю:

*Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,*
*Над хвалямі сінеючага Ніла,*
*Ужо колькі тысяч год стаіць магіла:*
*У гаршку насення жменю там*
*знайшлі.*
*Хоць зернейкі засохшымі былі,*
*Усё ж такі жыццёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясенняй збожжа на раллі.*
*(„Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі")*

Шмат твораў Багдановіча, а асабліва тыя з самых ранніх гадоў ягонай творчасці, гэта сведчанне, што чалавечае існаванне без негатыўных пачуццяў — страху і суму — немагчымае. У пазнейшых творах заўважаем сапраўдную эвалюцыю, праекцыю сумных, трагічных вобразаў і зневажанне страху перад смерцю, аб чым сведчаць хаця б словы апошняга, напісанага перад самой смерцю, твора.

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*
*(„У краіне светлай...")*

Углыбляючыся ў словы твора заўважаем, што яны амаль раўназначны класічнаму:

*Не зусім я памру, лепшая часць мяне*
*Не зазнае хаўтур...*

і выказваюць жывое пераканнне аб непрамінанні і вечным трыванні твора чалавечых рук, які сваім існаваннем па-новаму ажыўляе памяць аб тым, хто быў ягоным творцам.

Большасць твораў Багдановіча аб смерці, гэта так званыя „цёмныя" вершы, прыцярушаны імглой паэтычнага метада неназывання рэчаў па імені, прысланення шматзначнасцю алюзій і сімвалаў, укрываючыя па-за метафорыкай і фрагментарнасцю незакончанай думкі ўнушэння глыбейшага, не адслоненага дна сваіх значэнняў.

Часта лірычнае „я" з'яўляецца носьбітам канкрэтнай біяграфіі, акунутай у выразна абрысаваныя часа-прасторныя рэаліі. Гэта час і т.зв. вялікай гісторыі (гісторыя Беларусі, вопіс ейнай сацыяльна-бытавой сітуацыі) і час адзінкавых перажыванняў. Балючае пачуццё знішчальнай дзейнасці часу, часу які накіроўваецца да смерці, прабуе паэт элімінаваць рознымі відамі ўвянчання — у культуры, у паэтычным слове („Каганцу", „Ціхія мае ўсе песні", „С. Палуяну").

Углыбляючыся ў творы Багдановіча пра смерць, няцяжка заўважыць што вузлавыя пункты лірычнай сітуацыі змяшчаюцца не ў сферы дзеяння, але ў сферы перажыванняў, успамінаў, памяці і ўяўлення. Здзіўляе таксама эстэтыка вершаў. Прадметам вопісу шматлікіх твораў з'яўляецца сам акт смерці. У большасці выпадкаў гэтае здарэнне прабягае быццам бы за кулісамі і мы можам спадарожнічаць ейнаму душэўнаму, а не фізічнаму ходу.

Тэма твораў пра смерць маці пры родах, а таксама назва цыкла, у якім яны змешчаны — „Каханне і смерць" — сведчаць несумненна аб блізкасці кахання і смерці. У гэтай нізцы паражае нас нязвыклая далікатнасць, з якою паэт пранікае таямніцы таямніц. Яна, маці, падобна як у біблейнай прытчы аб зерні і коласе, вартасцю жыцця пераадольвае смерць і не толькі прадаўжае род, але і адраджае быт, асвечаны любоўю, прыгажосцю, несмяротнай духоўнасцю. Таксама прыняцце смерці ці цярпення ў імя даравання жыцця асвечана ў Багдановіча верою ў несмяротнасць. З першымі рухамі дзіцяці наступае перамога яснасці, святасці над тым, што цёмнае, інстынктыўнае, фізічнае. І хаця бачым, што каханне перарываецца смерцю, то ніхто не праклінае кахання, нават тая, якая ад яго памірае.

*Дзіцё, што ў коласе зярно,*
*Пад сэрцам у цябе ўсё спее.*
*І сэрца цёмнае святлее,*
*І шчырым робіцца яно.*
*Ужо нічога ў ім няма,*
*Адно ёсць — рупнае каханне,*
*Салодка-соннае бажанне,*
*Салодка-сонная дума.*
*(„Да вагітнай")*

У гэтым а таксама ў астатніх творах цыкла „Каханне і смерць" маем дасканалую дакументацыю сцвярджэння, што каханне і смерць з'яўляюцца па-сапраўднаму дзвюма бакамі канчатковага канстытуіравання чалавечай асобы, а каханне на моцы сваёй дынамічнай натуры цягнецца да ўзросту, найвышэйшай нормай якога ёсць ахвяраванне ўласнага жыцця.

Праблематыка пахавання і смерці ў паэзіі Максіма Багдановіча здзіўляе нас высокім гуманізмам, глыбінёю і прастатою паэтычнай думкі, пластычнай выразнасцю формаў. Бачым у іх і асабістыя і анталагічныя (літаратурныя, фальклорныя, міфалагічныя) матывы, а таксама выразную эвалюцыю светапогляду аўтара — пераходжанне ад матэрыяльнага да душэўнага, ад profanum да sacrum. Бачым спробы актывізму і творчага ўплыву на ўласны лёс шляхам унутранага самадасканалення, што вядзе да афірмацыі жыцця і свету і інтэнсіўнага перажывання рэчаіснасці. Да свядомага перажывання „фактаў", якім падпарадкавана кожнае чалавечае жыццё.

**Бэата Капій**




*БАРЫС РУСКО*

### Далёка Ты

Адсюль далёка хвалі Твайго мора,
а подых мяккі,
як пёрка птушкі над птушанём.
Па-за аблокі бягуць — там выбраў
месца на маю прыстань.
А мовай яснай шумяць заблуднаму
ў сцяпленнях каранёў жыцця сыну.
Адсюль далёка да Твайго сэрца —
застыла ў маўчанні.

### Доўг

Доўг сплачваў жыццём доўга,
а дарога ў калдобінах і ў крываццёку.
Агонь стравіў жытло датла —
гады нягод і адрачэння;
маланка рассякала ноч
на бяссонныя кавалкі,
а вецер здзеклівы ў твар —
каляны подых поўначы
хоць ён, як кожны селянін,
узіраўся ў поўдзень, у сонца,
чакаў спрыяльных перамен.
Надзея зводная згасала,
з надзеяй згас і ён.

### Твар прамінання

Дні адлятаюць за бацькам.
Пабранзавела сенажаць,
каса пакрылася іржою
і камень, на які сядаў, палопаў,
і сляды ног ледзь бачныя на сцежцы,
і сцежка вузкая, як нітка,
што абмотвае чорны пень —
ён памятае плач
народжанага сына.

### Жыццё

Няважны градабой чорных хвілін
і цэглы адлупленыя знявечанага дома,
і жывыя раны ад хлусні.
Няважна, што запруджаны дарогі
і размыўся гарызонт,
і маладосць крадком уцякае.
Няважныя страты,
памылкі
і роспач.
За свабоды глыток,
за шчасця напарстак,
за жменю кахання
падымаю тост.

### Настальгія

Каранёвая глыба не пераважыць тугі
і ў галерэі ўспамінаў
карціны майстра нічога не значаць,
і мёд не мёд — не з бацькавай пасекі,
і сцежка, па якой хаджу,
завузкая,
каб зразумець парадак згублены;
роспач апраўдана,
калі няма лекара душы.
Чаму так доўга стаю на каленях
перад сабою?

### Смак прамінання

Заўсёды захапляўся я кветкамі —
больш смачныя, чым спелы плод.
Помню,
пахіленае дрэва ўпіралася ў аблокі,
а цяпер па маім гарбе паўзе дзень.
У прамінання нешта з горкіх
міндаляў...
А так прыгожа цвітуць.

### Уцёкі

Ад папялішча да папялішча,
ад сумнення да сумнення,
ад абуджэння да абуджэння
гарыць свечка ў жывой далоні.
Няма слова падтрымкі,
толькі слова малітвы;
няма праклёнаў,
толькі роспач,
няма развагі,
толькі ўцёкі,
кароткім шляхам —
ад сябе,
ад свету,
улева,
управа,
у зман —
свінцом вывесці сум на рукапіс
жыцця.

### Безвыходнасць

Згарэла прастора,
ні глытка паветра,
попел рассеяўся,
тлее толькі роспач.
А час вяне,
хоць слёзы краплістыя
ў прадонні.

# Усё трэба пачынаць ад пачатку

25 мая 1995 г. Вярхоўны Адміністрацыйны Суд III Рэчы Паспалітай адмяніў ранейшыя пастановы двух шэфаў Управы Рады Міністраў Яна Мар'і Ракіты і Міхала Стронка аб прызнанні Супрасльскага манастыра ва ўладанне Праваслаўнай царкве. Справа вярнулася да зыходнага пункту.

Усялякія суды займаліся справай уласнасці Супрасльскай лаўры ад 1928 г. На гэтую тэму шмат пісала польская і замежная прэса. Апошнім часам наконт будучыні манастыра выказваліся такія вядомыя асобы, як папа рымскі Ян Павел II, прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса і былы прэзідэнт Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Усе яны каталікі, але ніхто з іх не сумняваўся, што Супрасльская лаўра павінна вярнуцца ва ўладанне праваслаўных.

Манастыр у Супраслі ад некалькіх гадоў знаходзіцца ў цэнтры ўвагі праваслаўных жыхароў Беласточчыны. Яго будучыняй цікавіцца таксама жменька мясцовых каталікаў, якіх актыўнасць вельмі дынамізавалася, калі мітрапалітам беластоцкім стаў Станіслаў Шымэцкі.

Праваслаўны ад самога пачатку свайго існавання манастыр на звыш дзвесце гадоў, так як і ўся Беласточчына, стаў уніяцкім. І гэты перыяд уніяцтва дае быццам бы каталіцкаму епіскапу Станіславу Шымэцкаму падставы дамагацца ўсіх манастырскіх будынкаў. Парадокс заключаецца ў тым, што патрабаванне забраць на ўласнасць манастыр раней паставілі, а пасля знялі, самі уніяты, прызначаючы тым самым права на яго ўладанне Праваслаўнай царкве.

Нягледзячы на канфесійную прыналежнасць Супрасльскага манастыра, ён заўсёды служыў беларускаму насельніцтву гэтай зямлі. Нават тады, калі быў уніяцкім, не пераставаў быць беларускім. Палякі-каталікі ніколі не імкнуліся да гэтага веравызнання, таму сярод уніятаў ніколі іх не было. У палове XIX стагоддзя уніяты-беларусы сталі праваслаўнымі. Але ўсе гэтыя змены веравызнання кранал выключна беларускае насельніцтва.

Таму зусім незразумелым становіцца намаганне епіскапа Станіслава Шымэцкага захапіць Супрасльскі манастыр. Няма для гэтага ніякіх падстаў — ні гістарычных, ні культурных, ні рэлігійных, ні маральных. Здзіўляе асабліва і тое, што ўсё гэта адбываецца ў той час, калі галава Каталіцкага касцёла дае доказы добрай волі наладзіць нармальныя адносіны з усімі хрысціянскімі веравызнаннямі, у тым ліку і з Праваслаўем. Цяжка паверыць, што Каталіцкі касцёл у Польшчы — гэта не той самы касцёл, якім кіруе Ян Павел II. Аўтарытэт сённяшняга рымскага папы ў Беластоку, як відаць, не надта вялікі, калі лакальны епіскап ігнаруе найвышэйшага свайго начальніка, парушаючы прытым асноўныя прынцыпы хрысціянства. Яшчэ не так даўно епіскапы беластоцкай мітрапаліі ў інтэрв'ю для „Gościa Niedzielnego" (29.08.1993 г.) заяўлялі, што на Беласточчыне няма ніякіх беларусаў, а толькі нейкія чужынцы, прывезеныя царамі з глыбіні Расіі. Епіскапы ведалі, якая ёсць праўда, але гаварылі штосьці зусім іншае. І гэта менавіта становіцца самым страшным. Людзі, якія прызваны быць ахоўнікамі маральнасці, даюць доказы пагарды для праўды і сумленнасці. Дзе тады шукаць падтрымкі для справядлівасці?

Калі епіскап заяўляе, што праваслаўныя прывязлі на Беласточчыну расейскія імператары, тады чаму ж не мелі б права сябры Таварыства любіцеляў Супрасля на ўвесь свет трубіць, што манастыр ад самога пачатку быў уніяцкім. Гмінныя гісторыкі знайшлі прытым шмат доказаў ягонай каталіцкасці, спасылаючыся асабліва на архітэктуру разбуранай падчас апошняй вайны Благавешчанскай царквы. Нейкія элементы фасада і надваконнага скляпення надта напамінаюць ім касцельную архітэктуру. Лічаць яны, што Хадкевічы — фундатары манастыра — былі прыхільнікамі г.зв. фларэнцкай уніі. Смела і адважна падтрымоўваюць іх некаторыя магістры, дактары і дацэнты з Гістарычнага інстытута Філіяла Варшаўскага універсітэта. Навуковая сумленнасць стала цяпер зусім танным таварам.

А Супрасльскі манастыр пастаянна набліжаецца да руіны. Сельскагаспадарчы тэхнікум, які дзесяткі гадоў знаходзіўся ў яго мурах, атрымаў новыя памяшканні, бо ў манастыры ўжо дожджык прытым падаць вучням на галаву. Ад некалькіх гадоў будынкам патрэбен генеральны рамонт. Унутры сцены заатакавала цвіль. Дзіравы дах спрыяе пашырэнню гнільных працэсаў. Цяжка прадбачыць, ці манастырскія муры датрываюць да часу канчатковага вырашэння справы іх уласнасці. Адно аднак вядома, што кожны год на некалькі мільярдаў злотаў узрастае кошт іх будучага рамонту.

**Я. Мірановіч**




**Глыбокапаважаны, дарагі Спадар Галоўны!**

Дасылаю Вам вось гэтыя ксэракопіі з каталіцкага гданьскага друку. „Tygodnik Powszechny" таксама спачувальна ставіцца да Беларусі. Прыемна даведацца, што маем такую ацэнку таго жудаснага ўсяго ў Беларусі.

Таму мяне тым больш трывожыць, што „Ніва" вышукоўвае ў розных крыніцах тое, што мае адмоўныя рысы ў польскім жыцці. Заганнае яно, можна наогул увесь штотыднёвік запоўніць адмоўнымі з'явамі ў краіне.

Зараз гістарычны кантэкст павінен Вас насцярожыць! Выбягаючы крыху ў цалкам нецікавую (пакуль што — веру ў гэта!) будучыню, трэба памятаць, што прынамсі ў Польшчы беларусы маюць тое ўсё, чаго ўжо неўзабаве не будзе хапаць у Беларусі; менавіта ў нашай краіне можам фармаваць свабодную, беларускую думку, нават думаць аб выхоўванні будучых кадраў для Беларусі. Нават!

Дык мой дарагі, варта прыцішыць жартоўныя (далікатна кажучы) заўвагі, зацемкі, нататкі ў „Ніве", якія могуць дакучаць палякам. Трэба браць пад увагу і выказванні нашых ворагаў; яны з'едліва гавораць: „За грошы Варшавы выдаецца „Ніва", а яе матэрыялы часта супрацьпольскія". Гэтыя перадрукі з „Wprost"... І гэтак далей.

Лена Г. падзяляе мой погляд. Можа ўжо не цалкам так. Трэба перспектыўна думаць, праўда? Надта ж мне дарагая беларуская справа і таму вось гэты ліст да Вас.

Моцна сціскаю Вашыя рукі, паздраўляю нашых рэдактараў і супрацоўнікаў!

**Мацей К.**
**(Гданьск)**

P.S. За ўсе памылкі выбачайце! Не карыстаюся беларускай моваю штодня, а толькі ў шчаслівыя хвіліны, калі збіраемся ў „Хатцы".

Я знаходжуся ў асяроддзі, якое, як усюды, поўнае комплексаў, нервознае, злоснае („Салідарнасць" сталася фікцыяй!) і не трэба яго дражніць. Вы ж добра ведаеце, што і ў Беластоку тое самае. Наогул, як кажуць, людзі абалванелі. Як і палякам, гісторыя цалкам не спрыяе мсціць за іх памылкі і аб'ектыўныя прычыны (месца ў Еўропе!). Маюць тутака сваю ролю. Таму ўжо па-польску напішу: Bądźcie bardziej powściągliwi w „Niwie".

Выбачайце, думаю так і пішу так да Вас. Ці можаце мяне зразумець?

**М.К**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Мацей! Я не думаю, што змяшчаючы цытаты з польскай прэсы, у якіх выступаюць нейкія кур'ёзы з галіны палітычнага, ці грамадскага жыцця Польшчы, мы праяўляем непрыхільнасць да палякаў. Калі так будзем бачыць справу, тады смела можна сказаць, што ў рубрыцы „Мы прачыталі" выступаюць акцэнты антырасейскія, антыамерыканскія, антыкітайскія..., антыбеларускія... і што ўсе газеты ў Польшчы таксама антыпольскія .

З вялікай павагай да Вас,

**Яўген Мірановіч.**

# Памёр на чужыне

24 красавіка г.г. памёр у Аўстраліі Міхась Зуй, актыўны беларускі дзеяч на эміграцыі, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Развітацца з Зуем прыехалі ў Сідней прадстаўнікі беларускіх арганізацый з усёй Аўстраліі.

Міхась Зуй нарадзіўся ў 1909 г. на Віленшчыне. Ад 16 года жыцця быў ён цесна звязаны з беларускім нацыянальным рухам і змагаўся з нахабнай асіміляцыйнай палітыкай, якую на Віленшчыне вяла польская адміністрацыя. Актыўна дзейнічаў у самадзейным руху, гэта значыць у тых формах, якія не былі яшчэ забароненыя ўладамі. У 1939 г. спазнаў яшчэ іншую палітычную сістэму, якая яго, як свядомага беларуса, зразу акрэсліла нацыяналістам.

Падчас вайны ў радах Беларускай народнай самаахова абараняў свае родныя мясцовасці ад усялякіх партызанаў, пазбягаючы такім чынам крывавых нямецкіх экспедыцый.

У чэрвені 1944 г. рушыў на Захад, але вярнуўся з тэрыторыі Польшчы і прабаваў арганізаваць беларускі незалежны рух супраць бальшавіцкай акупацыі. Не было, аднак, ніякіх шанцаў для існавання свабоднай Бацькаўшчыны. Зую трэба было ўцякаць. З 1946 да 1949 г. працаваў у розных краінах Еўропы. У 1949 г. вырашыў адправіцца ў Аўстралію, дзе стаў адным з найбольш актыўных арганізатараў беларускага руху ў гэтай краіне.

Развітальную мову над магілай Міхася Зуя сказаў ягоны верны сябра Паўлюк Дуброўскі-Гуз.

**Р.**

# Казельская Ікона Божай Маці

Кожны твор мастацтва мае сваю гісторыю, звязаную з лёсам канкрэтных людзей. У гэтым сэнсе асаблівую ролю адыгрывалі заўсёды іконы, паколькі яны, акрамя эстэтычнай вартасці, шанаваліся пераважна як перадатчыкі ласкі, аб'екты малітвы, а разам з гэтым як увасабленне Божай апекі.

У часы ваеннага ліхалецця, у вельмі незвычайных абставінах з'явілася Ікона, якая цяпер называецца **Казельскай Іконай Божай Маці.** Як вядома, пасля захопу савецкай арміяй у верасні 1939 года Заходняй Беларусі, НКУС сарганізавала ў былым праваслаўным манастыры ў Казельску адмысловы лагер, пераважна для афіцэраў польскай арміі. Сярод вайскоўцаў, як і наогул сярод дэпартаваных на ўсход сотняў тысяч „ворагаў народа", знаходзіліся і цывільныя, і вайсковыя беларусы. У казельскім лагеры апынуўся нават галоўны праваслаўны капелан Польскага Войска, а. палкоўнік Сымон Федарэнка. Не зважаючы на забарону, капеланы ўсіх веравызнанняў намагаліся несці вязням духоўнае суцяшэнне. Рэлігійныя практыкі былі ўцёкамі ад жорсткай рэчаіснасці і ў іх вязні шукалі дапамогі і выратавання.

На тэрыторыі былога казельскага манастыра знаходзілася невялікая царкоўка, у якой, выкінуўшы іконы, НКУС зрабіла харчовы склад. Дзіўным чынам на сцяне храма ўцалела фрэска з выявай Жыровіцкай Божай Маці, што вязні ўспрынялі як знак Божага Наканавання. Натхнёныя гэтай думкай вязні пачалі шукаць сярод сябе мастака, які перанёс бы фрэску на дошку. Здольныя зрабіць гэта аказаліся паручнікі Сямірадзкі і Зялінскі. Для іконы яны ўжылі ліпавую дошку са знішчанага іканастаса, якая ў лагернай кухні служыла як накрыўка для бочкі з вадой. На ёй бачныя яшчэ былі сляды сіняй фарбы. Затым генерал, які працаваў у сталярні, перапілаваў дошку на паловы; адну атрымаў Сямірадзкі, а другую — Зялінскі.

Сямірадзкі маляваў ікону ў канспірацыі ўкрадзенымі ў палітрукоў фарбамі. За ўзор паслужылі яму выявы Жыровіцкай (са згаданай фрэскі) і Вастрабрамскай Божай Маці. Зялінскі, у не менш прымітыўных умовах, са знойдзеных кавалкаў дроту і цвікоў выканаў настолькі дакладныя прылады, што дазволілі яму выразаць прані́зліва сумны твар Божай Маці.

У 1940 годзе вязні з Казельска і Старабельска былі расстраляны ў Катыні, але Ікона апынулася ў лагеры ў Гразаўцы, дзе пачалося фармаванне польскай арміі. 25 жніўня 1941 года Ікона была ўстаноўлена на палявым алтары, на якім капеланы адпраўлялі багаслужбы. У 1943 годзе 114 тысяч вайскоўцаў арміі генерала Андэрса пакінулі межы Савецкага Саюза і перайшлі ў Іран. На працягу доўгага вандравання праз Іран, Палесціну і Егіпет жаўнерам спадарожнічала Ікона Казельскай Божай Маці. Перад ёю архіепіскап-генерал Сава ды іншыя праваслаўныя капеланы адпраўлялі багаслужбы для шматлікіх беларусаў і украінцаў. Ікона заўсёды таксама знаходзілася на палявым алтары падчас жалобных багаслужбаў за забітых жаўнераў іншых веравызнанняў.

Пасля заканчэння вайны разам з тысячамі вайскоўцаў, якія пабаяліся вяртацца на Бацькаўшчыну, і барэльеф, і Ікона з Казельска апынуліся ў Англіі. Барэльеф вядомы сваёй пранізлівай выявай твару Божай Маці быў змешчаны ў касцёле святога Андрэя Баболі. Што тычыцца Ікону, дык у 1958 годзе яна была пашкоджана. Нядбайна праведзеная кансервацыя і змена паліхроміі сапсавалі аднак арыгінальны выгляд Іконы. Былыя жаўнеры арміі генерала Андэрса, якім абраз спадарожнічаў у паходах і ў баях, настойліва, аднак дарэмна, дамагаліся вярнуць дарагой ім Іконе першапачатковы выгляд.

Казельская Ікона Божай Маці з'яўляецца скарбам пасляваеннай палітычнай эміграцыі і сімвалам ваеннага шляху жаўнера з пекла савецкіх лагераў да Радзімы або на свабоду. У духоўным сэнсе яна з'яўляецца ўласнасцю ўсіх, хто загінуў у Катыні, тых, хто перажыў лагер у Казельску і затым ваенную завіруху на Захадзе. Незалежна ад сваёй мастацкай каштоўнасці, яна адыграла выключную ролю і з'яўляецца рэліквіяй усіх жаўнераў-хрысціян.

Былыя жаўнеры арміі генерала Андэрса лічаць, што Ікона павінна вярнуцца туды, адкуль выйшла. У часе, калі ўпарадкоўваюцца магілкі ў Катыні ды іншыя месцы расстрэлаў, Ікона павінна прысутнічаць на месцах пакутніцкай смерці ахвяр бальшавіцкага генацыду.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Былі сябрамі

Хведар Ільяшэвіч і Юры Жывіца... Іх, на жаль, ужо няма ў жывых. Але гэтыя сціплыя радкі сёння я хачу адрасаваць менавіта ім. Трэба неяк паціху вяртаць напісанае і зробленае гэтымі таленавітымі людзьмі нашаму народу і вызначыць іх месца ў гісторыі беларускай культуры.

Хведар Ільяшэвіч нарадзіўся ў Вільні ў 1910 годзе ў сям'і паштальёна. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. За дысертацыю „Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1572—1622)" атрымаў у 1936 годзе званне магістра філасофіі. У гады вайны быў рэдактарам беластоцкай газеты „Новая дарога". Загінуў у Германіі ў аўтамабільнай катастрофе ў 1948 годзе.

Першыя абразкі і вершы Хведара Ільяшэвіча з'явіліся ў друку ў 1925 годзе. Пасля свет убачылі яго паэтычныя зборнікі „Веснапесьні" (1929 г.), „Зорным шляхам" (1932 г.) і „Захвараваныя вершы" (1936 г.).

Пісаў Хведар Ільяшэвіч і апавяданні, крытычныя артыкулы, рэцэнзіі. Пасмяротна выйшлі яго „Апавяданьні" (Ватэнштэт, 1948 г.). Што датычыць беластоцкага перыяду жыцця Хведара Ільяшэвіча, дык пра гэта добра сказаў Арсень Ліс у артыкуле „Паэзія Хведара Ільяшэвіча" (гл. зб. „Культура беларускага замежжа", н-р 2, Мінск, 1993 г.): „Ён узначаліў „Беларускае Аб'яднанне ў Беластоку", якое ўзнікла ў час вайны, супрацоўнічаў у газеце „Новая дарога", клапаціўся аб пашырэнні сеткі беларускіх школ. Вершаў і апавяданняў, якіх у перадваенным часе нямала друкаваў пад псеўданімам М. Дальні, у вайну не публікаваў, паэўна не пісаў. У „Новай дарозе" сустракаецца некалькі артыкулаў, у тым ліку пра Аляхновіча-драматурга, Міхася Забэйду-Суміцкага, эцюд пра Уладзіміра Жылку з нагоды дзесяцігоддзя з дня смерці... Паводле сведчання пісьменніка Масея Сяднёва, сарванага віхурай вайны з роднай Магілёўшчыны, Хведар Ільяшэвіч „прытуліў" яго ў Беластоку пры рэдакцыі газеты, дапамог апублікаваць ягоную сібірскую адысею, а таксама драматычную споведзь сведкі-відавочцы аб знішчэнні сталінскім рэжымам беларускіх савецкіх пісьменнікаў..."

У Беластоку з Хведарам Ільяшэвічам упершыню пазнаёміўся і Юры Жывіца — беларускі празаік, журналіст і выдавец на эміграцыі. Нарадзіўся ён у кастрычніку 1912 года. Большую палову свайго жыцця пражыў далёка ад Беларусі. Шматлікія ягоныя публіцыстычныя артыкулы і фельетоны раскіданы амаль па ўсіх выданнях беларускай эміграцыі.

З твораў мастацкай літаратуры Юры Жывіца выдаў ратаратным спосабам зборнікі апавяданняў і аповесцей „Сын" (1950 г.), „Праз сьлёзы" (1951 г.), „Расказы" (1961 г.), „У санаторнай белі" (1962 г.), „Жуpавель" (1962 г.), „Сьвецяць у тумане" (1962 г.), „Носьбіт ідэі" (1964 г.) і многія іншыя.

Юры Жывіца быў апантаным і руплівым выдаўцом. Ён выдаваў часопіс „Вехі", газету „Беларуская праўда", дапамагаў і шмат друкаваўся на старонках часопіса „Беларуская думка". Да 25-годдзя трагічнай гібелі Хведара Ільяшэвіча, Юры Жывіца напісаў пра яго ўспаміны, якія прапаную чытачам тыднёвіка „Ніва". Яны — сведка мінулых гадоў, калі сябравалі Хведар Ільяшэвіч і Юры Жывіца.

**Сяргей Чыгрын**

---

*Юры Жывіца*

# Рэха мінулых гадоў

Першы раз пабачыў я Хведара Ільляшэвіча на вуліцы ў Пружанах у 1929 годзе, калі ён прыязджаў на пабыўку да сваіх бацькоў; мой школьны сябра паказаў мне яго, калі той праходзіў міма нас. Я чуў пра яго і раней, бо Ільляшэвіч, прыязджаючы ў Пружаны, не сядзеў і не адпачываў, а адведваў знаёмых, — у першую чаргу — сьведамых беларусаў, ня толькі ў Пружанах, але і па вёсках, перш за ўсё ў Шанях, дзе жыў тады малады паэт Мікола Засім. Там была беларуская школа, было Таварыства Беларускай Школы і бібліятэка. Гэтак было на пачатку, бо пазьней палякі ўсё зачынілі і вёску сілай „успакоілі", але беларускае жыцьцё ў вёсцы і далей бурліла. Студэнты і гімназісты з Шанёў, што вучыліся ў Віленскай Беларускай Гімназіі, давозілі ў вёску беларускую літаратуру. Ад іх я дастаў зборнік вершаў Хведара Ільляшэвіча „Веснапесьні". Ён, між іншым, у сваіх вершах пісаў пра свой побыт у турме: „... і чорнага хлеба паўфунт, сапраўды можа зрадзіцца вялізарны бунт..." або, „...імкнуся, каб згінуць, я сам сабе пан..."

Так, ён імкнуўся згінуць, але не таму, каб толькі згінуць, а згінуць за Беларусь. На вялікі жаль, ён згінуў з сябрамі на звычайнай нямецкай дарозе, на скрыжаваньні, недалёка ад Ватэнштэту. Гэта здарылася 25 гадоў таму — 7 лістапада 1948 г.

Шкада, што ён гэтак рана адыйшоў ад нас, бо гэта быў выключна здольны чалавек, які мог-бы шмат узбагаціць беларускую літаратуру, беларускую думку, бо ён-жа быў і малады філёзаф. Здабываючы ступень магістра, ён напісаў і абараніў навуковую дысэртацыю на тэму — „Друкарня братоў Мамонічаў". Гэтую працу пахвалілі, як самую выдатную працу маладога навукоўца. Нават некаторыя савецкія вучоныя БССР спасылаліся на яе.

Хведар Ільляшэвіч быў рэвалюцыянерам думак і пачуцьцяў. Ягонымі ідэямі я таксама захапіўся ды жыву імі да сёньняшняга дня.

Мне помніцца: у 1942 годзе ён даведаўся пра мяне ад Сымона Міхальчука, старшыні Шарашоўскага аддзела Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, атрымаў ад яго мой адрас і прыслаў мне запросіны прыехаць да яго ў Беласток. Ён тады быў старшынёю Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку — замяніў Ул. Тамашчыка, які выехаў на фронт. Я паехаў. На Кіеўскай вуліцы я адшукаў Аб'еднаньне, зайшоў у сакратарыят і паведаміў аб маім выкліку. Чакаць давялося надоўга — сакратарка запрасіла мяне да Ільляшэвіча. Я зайшоў. Ён устаў на прывітаньне, падыйшоў да мяне, і мы моцна паціснулі адзін другому рукі. Ён запрасіў мяне сесьці. Гэта было першае асабістае знаёмства.

Гутарка між намі завязалася хутка і мы, ведаючы адзін другога, сталіся быццам даўно знаёмымі, пасябравалі.

Пасьля размовы, Хведар Ільляшэвіч паклікаў сакратарку, і яна адвяла мяне на другі паверх, дзе былі вольныя пакоі для прыезджых. Там я затрымаўся на пару дзён. На абед ён запрасіў мяне да сябе, да сям'і, якая прыняла мяне вельмі ветліва.

Але вернемся да нашай гутаркі. Ён гаварыў, што трэба выкарыстаць абставіны, рабіць усё, што карыснае беларускай справе, не выпускаючы з вока галоўную мэту — вызваленьне Беларусі і адбудову свае нацыянальнае незалежнае дзяржавы ў межах нашых земляў. Мы мусім паказаць усяму сьвету, што мы жывём, маем сілу ды змагаемся за сваю Бацькаўшчыну. Калі мы ня будзем мецьсваіх ідэалаў, сваёй мэты жыцьця і змаганьня, дык сільныя раздушаць нас, як таго чарвяка на дарозе, раздушыць нас гісторыя сваім колам. Каб гэтага ня сталася, мы мусім даць адпор, паказаць сваю сілу. Тады будзе меней ахвяраў, бо цяпер нас душаць маскалі, немцы, палякі — страляюць па нас з-за вугла. Нам трэба быць арганізаванымі, бо толькі тады мы будзем мець сілу. Немцы глядзяць на нас, як на „унтэрмэншаў". А калі мы пакажам сваю сілу, свае здольнасьці працаваць і змагацца, тады яны іншым вокам глянуць на нас, папусьцяць нам. Мы апынуліся ў такіх абставінах, што змушаны працаваць з немцамі. Прыйшлі-б да нас ангельцы, французы ці амэрыканцы, — мы працавалі-б зь імі. Мо тады лягчэй было-б працаваць, але заўсёды мы мусім трымацца разам, трымацца галоўнае нашае мэты — вызваленьня Беларусі і адбудовы свае дзяржавы.

Ягоныя думкі захапілі мяне, я жыву імі і да сёньняшняга дня. І цяпер я думаю: каб ня ён, каб ня „Новая Дарога" і не Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку ў той час, дык цяпер там ня было-б ні „Нівы", ні беларускіх школ, ні БГКТ.

Пасьля гутаркі мы разьвіталіся на два дні. Я застаўся там-жа ў Аб'еднаньні, а ён выехаў на два дні па справах у Горадню, даручыўшы мне сесьці ў ягонае крэсла і быць ягоным часовым заступнікам. Я здмуліўся, бо ня ведаў, што да чаго, што гаварыць з наведвальнікамі. А іх было шмат — перасяленцаў з Белавежскай Пушчы. Кожны прыходзіў з просьбамі, з крыўдамі, а магчымасьці памагчы былі невялікія. Ён мяне давучаў: „Будзь да кожнага ветлівы. Прывітай, запрасі сесьці, папрасі расказаць, у якой справе прыйшоў. Уважна выслухай, скажы, што старшыня выехаў і папрасі, каб прыйшлі за пару дзён, старшыня вернецца і залагодзіць іхнюю справу".

Гэтак я і рабіў, і ўсе былі задаволеныя, хоць наведвальнікаў было шмат: адзін патрабуе дровы, другі — цукар, іншы хоча лепшую кватэру і г.д. У таго арыштавалі сына, ці кагось блізкага. Тады Ільляшэвіч бег у СД і памагаў выручыць, калі толькі была магчымасьць. Вось тут ён і паказаў сваю беларускую філязофію: „Калі вы нам не папусьціце, які будзе тады наш аўтарытэт сярод насельніцтва?" — гаварыў ён у СД. (Я сам пры гэтым быў і чуў). І начальнік СД папускаў — звальняў арыштаваных.

Чуткі аб тым, што Ільляшэвіч і сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку былі супрацоўнікамі з немцамі ў тым дусе, што памагалі вывозіць людзей у Нямеччыну, падаючы сьпісы на вываз, — зьяўляюцца брудным паклёпам маскалёў. Наадварот, яны вырвалі з рук гэстапаўцаў тое, што маглі вырваць; нават баранілі кумуністаў, бо Хведар Ільляшэвіч гаравыў: „Гэта-ж наш чалавек: ня было-б саветаў, ня быў-бы ён камуністам; або, калі-б мы былі вольнымі, дык ён таксама ня быў-бы камуністам. Ён стаўся камуністам у выніку абставінаў". І ён меў рацыю. Напрыклад: Мікола Засім стаўся камуністам толькі тады, калі абставіны загналі яго ў лес, ды немцы расстралялі ягоную маці.

Ільляшэвіч лагодзіў суадносіны паміж немцамі і беларусамі Беласточчыны. Ён дабіўся таго, што ў Беластоку выходзіла газета на беларускай мове „Новая Дарога", якую цяпер падмяніла „Ніва", з той толькі розьніцай, што „Новая Дарога" меней пісала пахвал уладам, як цяпер піша „Ніва". Ён дабіўся, што былі арганізаваны беларускія школы, быў арганізаваны хор і балет, быў запрошаны на выступы сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі, былі арганізаваны ў Беластоку два батальёны Беларускай Самаахоўы, ды Беларуская Самапомач. Гэта ўсё рабілася дзякуючы Ільляшэвічу, які ўмела мог падыйсьці да немцаў-акупантаў, але падыходзіў ён да іх не на каленях, а лёгчынымі вывадамі: за добрае — плаціць дабром.

Ясна, што ўсё тое, што рабіў Ільляшэвіч, не падабалася палякам і маскалям, хоць памагаў ён і маскалям, якія ўцякалі праз Беласток ад сваіх братоў на Захад. Нягледзячы на гэта, маскалі хацелі яго забіць. Яны падпільнавалі, дзе Ільляшэвіч вячэрае пасьля сканчэньня працы. А вячэраў ён у вартоўні, на другім паверсе, у кухні, дзе былая царская прыдворная прыбірала памешканьне Аб'еднаньня і варыла вячэру для яго і сяброў, якія ня мелі свае сям'і. Маскалі зьвязалі тры гранаты і кінулі ў вакно, але трапілі не ў шкло, а ў раму, і гранаты ўпалі на зямлю і там разарваліся, не зрабіўшы нікому шкоды. У выніку гэтага замаху, які выклікаў слушнае абурэньне на маскалёў і палякаў, аўтарытэт Ільляшэвіча ўзрос і сярод немцаў, і сярод сваіх людзей.

Немцы адступалі. З апошнім цягнікам выехаў і Ільляшэвіч з сваімі сябрамі з Беластоку. Я прыехаў у Нямеччыну не па сваёй волі значна раней яго. Калі я даведаўся, што ён затрымаўся ў Бэрліне, я аднойчы паехаў да яго. Ільляшэвіч вельмі сумаваў па тым, што сталася, асабліва, па сваёй сям'і і бацькаўшчыне. Тады ён мне гаварыў: „Хоць мы і наш народ пацярпелі, але пра Беларусь цяпер будзе ведаць увесь сьвет". Гэтак сталася.

Перад канцом вайны ён пераехаў з Бэрліна ў Ватэнштэт. Тут ён не сядзеў із зложанымі рукамі: працаваў у гімназіі, выдаваў ратаратныя часапісы „Шляхам Жыцьця" і „Апошнія Весткі". Я стаўся супрацоўнікам гэтых выданьняў. Я асабіста ўдзячны яму за тое, што ён дапамог мне моцным крокам ступіць на літаратурны шлях.

У сваім апошнім да мяне лісьце, Ільляшэвіч заклікаў мяне быць і далей такім стойкім, якім быў раней, не паддавацца розным спакусам.

Ад Юркі Віцьбіча 25 год таму я атрымаў сумную вестку, што Хведар Ільляшэвіч трагічна загінуў. Сьлёзы самі паліліся руччом. Мне было шкада яго, як чалавека, як змагара за беларускую справу, як майго настаўніка і сябра ў працы.

Магілу Хведара Ільляшэвіча мне давялося наведаць шмат гадоў пазьней ад імя беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Быў пахмурны восеньскі дзень. Я стаяў над магілай з апушчанай галавою, у якой маланкава пралятаці ўспаміны сустрэчы з нябошчыкам, мая з ім супраца ў „Новай Дарозе", у Аб'еднаньні. Каб ён, лежачы ў зямлі, мог адчуць тое, што я перажываў, над ягонай магілай, ён устаў-бы, каб прывітацца са мной, пагаварыць, як калісьці мы гаварылі, разважалі, марылі пра вольную Беларусь, ды змагаліся за яе, за яе правы быць вольнай сярод вольных народаў.

У адносінах да людзей Хведар Ільляшэвіч быў просты, ветлівы ды чулы да чужога гора і аднача быў упартым у змаганьні за Беларусь.

Ён любіў выпіць, шмат курыў, але ніколі не трацiў свайго розуму, ніколі не сказаў благога слова нават тады, калі крыху „перабіраў мерку" ў выпіўцы. Ён ведаў, што гэта нядобра і шкодзіць на здароўе, але ня мог пазбыцца гэтага налогу. „Польскія турмы давялі мяне да гэтага, — гаварыў ён. — Я дзіўлюся, як чалавек можа вытрымаць столькі. Нас білі, саджалі ў катухі, дзе мы мусілі сядзець на кукішках — мучыцца, але вытрымоўвалі. Ды і маральны зьдзек быў ня меншы. Падлога ў нашым кутку-закануры была чысьцюткая, але нас усёроўна змушалі чысьціць яе: каб мы, крый Божа, не сядзелі бяз працы і ня мелі ў галаве бунтарных думак, і мараў".

Шкада, што гэты вялікі сын беларускага народу загінуў так рана, загінуў на шляху жыцьця на чужой зямлі. Хай яна будзе яму лёгкай і цёплай, спакойным прытулкам! Мо' дасьць Бог, і ягоныя астанкі вернуцца ў прышласьці на родную зямлю.

Дапіска: Побач магілы Ільляшэвіча ёсьць магілы іншых ДПістаў. На іх ёсьць помнікі з каменя з беларускімі напісамі і з напісамі на іншых мовах, бо гэтае месца было прызначанае арганізацыям УНРРА і ІРО для пахаваньня ДП. Ці яно і далей застанецца там, ці будзе перанесенае дзесь на іншае месца — няведама. Месца прыгожае, аднак вее сумам, калі глядзіш на магілу блізкага чалавека.

*Бонн, Нямеччына, 1973 г.*




## Парады не толькі вучням

Будзь ветлівы кожнаму:
І бацьку роднаму,
І маці каханай
Богам пасланай

Паважай і любі ўсіх
У паводзінах сваіх,
Вядзі сябе культурна
А не хаўтурна.

Калі звычаі ліхія,
Да буры рвуцца маладыя,
Да лаянкі праз гарэлку
Калі перабяруць мерку.

Вось свіння больш разумная,
У паводзінах культурная,
Чалавека не аблае,
Усіх нас паважае.

Добрых птушак не чапай
А кожную паважай,
Гнёздаў не развальвай,
Віну на другіх не звальвай.

Прыроду не знішчай,
Для нашчадкаў захавай.
Прырода нас гадуе
І ў патрэбе ратуе.

**Мікалай Панфілюк**

*Гэтую трагічную рыфмаванку прысвячаю 54 гадавіне злачыннай напасці гітлераўскай Нямеччыны на СССР.*

## ВАЙНА

Сонца грэла летнім жарам, каласілася трава,
Птушкі з гоманам зайздросным увіхаліся ў гнёздах.
Селянін кляпаў касу, к сенажаці рыхтаваўся,
Дзетвара канчала школу: час канікулаў збліжаўся.

Радасна жужжэлі пчолы, лётаючы з кветкі ў кветку,
Статкі на лугу пасвілісь, як і кожны год улетку;
У нядзелю светлую з надыходам ранку
Над краінаю Саветаў пранеслась маланка.

Гітлер навязаў вайну краіне Саветаў,
Каб забіць нас і спаліць, самому валодаць светам!
Каля Дубіч у акопах войскі залягалі:
Білі немцаў, як маглі, і сваю кроў пралівалі.

Грабавец гарэў агнём, з Дубічаў па ім стралялі,
Немцы перліся ўперад, расіяне па іх „пралі".
Сярод рускіх — калмыкі, верныя Радзіме:
„Сталін нас тут пасадзіў, Сталін нас і здыме".

Не здаваліcь хлапчукі, жыццё аддавалі.
Маладыя, без вусоў, а насмерць стаялі!
Ля пяці падбітых танкаў танкісты ляжалі,
У Бабцы цішыня стаяла, толькі птушкі шчабяталі.

Па камбінезонах плямы крыві разліліся,
А байцы стагналі з болю, вельмі ж мучыліся.
Так крывавіла Айчына чатыры гадочкі:
Клалі галавы сыны, клалі іх і дочкі...

**Васіль Петручук**

## З альбома Барыслава Рудкоўскага




## Цуды і дзівы

Прачытала я нарыс Васіля Петручука ў „Ніве" ад 26 лютага 1995 г. п.з. „Іконы" і прыгадала размову аб цудах, якую вялі пры мне дзве пенсіянеркі. Адзін цуд здарыўся ў вельмі беднай вёсцы, яшчэ перад першай вайной. Парафія была бедная — ні бацюшка, ні ўрэй-карчмар не мелі ніякага прыбытку з галечы. Урэшце карчмар пайшоў да святара і запытаў ці ёсць у яго разьба святога Мікалая Цудатворца. Святая фігура была. Карчмар параіў укінуць фігуру ў студню на двары найбяднейшай сям'і. Калі бедныя прыйдуць і раскажуць бацюшку аб цудзе, трэба будзе аб'явіць аб ім ва ўсіх прыходах, прыйсці з працэсіяй і таго „Міколу" дастаць са студні і занесці ў храм. Народу з'едзецца шмат, будзе прыбытак і царкве, і карчме... Святар даў згоду, так і зрабілі. Калі раніцай гаспадыня пайшла па ваду, убачыла святую фігуру і пабегла да бацюшкі. Калі той прыйшоў да студні, сцвердзіў:

— Гэта Божая воля. Вось цуд у нас аб'явіўся. Трэба святога Міколу з усёй пашанай і па-святочнаму занесці ў царкву. Вады не бярыце, не трывожце святога, а пільна маліцеся.

Неўзабаве збеглася ўся вёска, усе ўпалі на калені. Хутка вестка абляцела ўсе суседнія вёскі і прыходы. Бацюшка вызначыў дзень асаблівай багаслужбы. На свята з'ехалася шмат народу і святароў. Да студні з фігурай прыйшла працэсія, з малітвамі і песнямі панеслі яе ў храм. Шмат тады прадалі свечак, іконак ды сабралі на ахвяру Богу. У карчме таксама гудзела, як у вуллі. Пасля штогод у той дзень было прыхадское свята, і людзей нямала прыязджала да прыходзіла.

Другая гісторыя была аб „цудзе" ў Заблудаве. Не ведаю дакладна, у якім годзе той „цуд" быў. Усе расказвалі, што аб'явілася ікона Божай Маці на дрэве, а вада набрала аздараўляючай моцы.

— Заехалі мы на матацыкле, — расказвала адна жанчына, — а там натоўп. На дрэве начэплены высока кавалак бляхі і белая ануча. Ад бляхі адбіваюцца сонечныя промні. Усе крычалі: „О, Маці Божая! О, Ісус Хрыстос!" Дзе вы бачыце святых, бо я нічога не бачу, — пачала я дапытвацца. На тое кінулася да мяне суседка: „Камуністы нічога не бачаць! Бог іх асляпляе!" Я нервавалася: „Едзем дадому. Штосьці дурное тут чвэрацы! Маліцца можам і ў царкве. Якія мы камуністы!" І мой муж з гэтым згадзіўся. „Пачакайце, пачуеце, як яны крычаць будуць, калі сонца зойдзе", — сказала іншая жанчына. Мы не хацелі чакаць і паехалі з мужам назад. А расказвалі аб адных мужу і жонцы — гультаях. Рашылі яны падзарабіць крыху ў Заблудаве. Муж прыкінуўся сляпым, жонка вяла яго пад руку. Падышлі да „святой вады", прамылі сляпому вочы. І як пачне ён галасіць: „Людзі, я бачу!!! Бачу свет, бачу Маці Божую, Ісуса Хрыста! Дзякуй Табе, Божа!" Надавалі ім людзі грошай нямала. Паехалі яны тады ў горад і ўсё дачыста прапілі.

Цяпер усё больш гавораць аб розных аздаравіцелях. У 1984 годзе такі неканвенцыянальны ўрач знайшоўся ў Алаве ў Вроцлаўскім ваяводстве. Мая мама яго наведала. Калі збіралася ехаць, усе на працы з яе смяяліся, што вернецца дадому не кульгаючы. Разам з ёю паехала адна дзяўчына. Каб дайсці да энергатэрапеўта, трэба было купіць кветкі і свечку. Людзей з'ехалася процьма. Урач клаў руку на галаве і гаварыў: „Матко Божа, поблогослаў і ўздравяй". Кветкі і свечкі выносілі, бо не было куды дзецца. Думаю, што іх прадавалі па некалькі разоў. Ці каму з хворых тое лячэнне дапамагло, маці не ведае, але добрую справу зрабіла прадаўшчыца кветак, свечак, а несумненна — аздаравіцель, якому давалі грошы, хаця ніхто пра такую заплату не гаварыў.

**Аўрора**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. піянерскі кіраўнік, 3. галіна мастацтва, 5. палоска зямлі пад агародніну, кветкі, 7. $H_2O$, 9. на званіцы, 10. вышэйшае епіскапскае званне, 11. кінатэатр, 12. старажытная дзяржава ў Месапатаміі, 14. горад у Сувальскім ваяводстве, 16. жаночае імя, 17. духмяная расліна, выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**Вертыкальна:** 1. вараная рэдкая страва, 2. вялікая драпежная жывёла, 3. з яе хлеб, 4. тэрытарыяльная адзінка ў Швейцарыі, 6. адарваўся ад свайго асяроддзя, 8. гульня ў касцяныя пласцінкі, 9. звінуты кусок паперы, 11. горад на поўначы Швецыі, 13. кароль Ітакі, 14. дарожка ў садзе або парку, 15. звараныя крупы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 18 н-ра:** морква, кужаль, аблава, аснова, траўма, клапан, свіран, смерць, Рангун, гарнір, Нанкін.

Адказы даслалі і кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.**




Сёння назбіраў я крыху сноў пра ваду.

* * *

Сніцца, што я купаюся ў ванне. Сяджу, вады па пояс. І вельмі мне добра. Сяджу доўга і вада ўжо халаднаватая, ды і паменшала яе, а мне ўсё не хочацца з ванны вылазіць. Адкруціла я кран з гарачай вадой, думаю, будзе больш вады, ды цяплейшая, то яшчэ пасяджу.

**Марыся**

Сніліся мне дачка з зяцем, што ляжаць разам у рове з вадой. Вада, як гэта бывае ў рове, — не вельмі чыстая. Зеленаватая, не скажу што брудная, але не зусім чыстая.

**Зося**

Мела я ўчора сон, што хаджу па залітых вадою лугах, вады проста мора, недзе мне па калені. Чопаю я па тым балоце, чопаю і выйсця няма, вада не канчаецца (вада не брудная, проста такая, як вясной з разлітай ракі).

**Мірка**

Дарагія чытачкі! Вада ў снах бывае надта шматзначная. Калі яна чыстая і празрыстая — чакае чалавека добрая слава, поспех і дабрабыт. Калі сніцца мутная, брудная ці цёмная вада — так і спадзявайся крыўды, смутку ці нейкіх непаладак у справах.

Найлепшы сон пра ваду быў у цябе, Марыся. Табе, седзячы ў ванне, было надта прыемна, і не важна, што вада стала халаднаватая і паменшала яе. Таму, мяркую, чакае цябе нешта вельмі мілае, прыемнае, а галоўнае, спакой.

Што датычыць твайго сну, Зося, пра дачку з зяцем, якія ляжалі ў рове з мутнай вадой, дык ён не зусім добры. Праўда, вада не была брудная, але дастаткова, што была мутная. Прынамсі нейкія плёткі тваю дачку і зяця не абмінуць.

А ты, Мірка, будзеш мець нейкія клопаты, з якіх добрага выйсця не відаць.

Жадаю ўсім вам перамагчы цяжкасці.

**Астрон**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Барыс Руско*

## Радкі з клічнікам

Настрой!
Дзе я, у хмызняках ночы,
ці ў чароце дня?
* * *
Жыву!
Як цудоўна нічога не адчуваць
і нічога не кеміць.
* * *
Гавораць!
Балбатанне — людская рыса, як
поза кажана ад світання да вечара.
* * *
Святло!
Запаліце свечку, бо сонца рэжа.
* * *
Розуме!
Навошта столькі захадаў,
каб вярнуцца ў тое самае месца.
* * *
Мова!
Колькі трэба над табою пацець,
каб не кусалі словы.
* * *
О, Божа!
Не ўжывай імені майго дарэмна,
светлячок прыдарожны.
* * *
Віват, вясна!
А ўва мне столькі восені.
* * *
Камень!
Прабач, не хацеў.
* * *
Патанаю!
Ва ўласным жыцці.
* * *
Агонь!
Неймаверна, гарыць попел.
* * *
Насмешнік!
А ці магу інакш? Гляньце на сябе.
* * *
Гарыць!
А ўбранне некранута.
* * *
Ну і поза!
Фотааб'ектыў не можа
ад яе адарвацца,
а што казаць пра мужчыну.

## Думкі ўслых

* І падумаць, што ў пенсіянераў няма выхадных.
* Святло ў халадзільніку прыдумалі начныя едуны.
* Увесь час гаварылі, што няма ім аб чым гаварыць.
* Людзі, у якіх невялікі запас слоў, рэдка ўзважаюць словы.
* Карціна была нікудышняя. Кропку над „і" паставіла муха.
* Чаму аб цяжкім дзяцінстве расказваюць дзецям бацькі, а не наадварот?
* Гэта не было храпенне. Гэта ў ім адзывалася пачвара.
* Флюгер думае, што зламіў у полі вецер.

**Адам Сяменчык**






*Над гэтым рукапісам я працавала амаль дзевяць месяцаў.*

Мал. А. Папова

# Між намі

— Ці ведаеце, без чаго не спячэцца хлеб? — пытае суседзяў Васіль.
— Ну, без мукі ды закваскі хлеб не спячэцца, — згодна адказваюць Кастусь і Коля.
— Вядома, але не. Без скарынкі хлеб не спячэцца!

* * *

— Ці ведаеце, што цяпер дадаецца да кілбас у беластоцкіх мясных прадпрыемствах? — пытае сяброў Раман.
— Што такое? Штосьці кепскае ці атрутнае? — устрывожылася Эля.
— Не, мяса.

* * *

У парку на лаўцы сядзіць прыгожая жанчына сярэдніх гадоў, апранутая ў чорнае.
— Што такая сумная, прыгажуня? — пытае прахожы. — Жалобу носіце па кімсьці?
— Ага. Па мужу.
— Сумная справа. Даўно?..
— Тыдзень таму паехаў у санаторый.

* * *

— Чаму ты ўчора ноччу акном дахаты ўлазіў? — пытае сусседа Федзя.
— Ужо мінула роўна дваццаць гадоў ад нашага вяселля. Мне сказалі, што калі ўвайсці да жонкі акном, то іначай буду адчуваць сябе ў пасцелі.
— І што?
— Яна аж здзівілася, што гэта я.

* * *

Двух васьмідзесяцігадовых сяброў рашылі наведаць сваіх пажылых сяброўак. Бабулькі жылі на чацвёртым паверсе.
— Будзем сёння паводзіць сябе як у маладыя гады! — абяцалі адзін аднаму.
Пакуль дайшлі да другога паверха, задыхаліся. На трэці ледзь узлезлі. Ледзь аддыхаліся перад уваходам на чацвёрты.
— Ой, што гэта будзе, калі яны захочуць паводзіць сябе як у маладыя гады?!.. — уздыхнуў Ракоп.

**Аўрора**

## Прымак

Які тут смак?
Які тут такт?
Як ты прымак —
То ўсё не так:

Не так ідзеш,
Не так сядзіш,
Не так ясі,
Не так глядзіш!

А што гаворыш
Муж і зяць —
Аб тым няма ўжо
Што й казаць!

Хоць сам не курыш,
Шмат не п'еш,
Зарплату ў хату
Ўсю нясеш,

Аднак, — прымак,
То ты й басяк!
Такая вось
Падзяка ўся!

Раз ты прымак,
Мо ты й дзівак,
Калі згадзіўся
Жыць вось так!

Як ты прымак,
Сябе трымай —
Да сэрца блізка
Не прымай!

*1994*

**Станіслаў Валодзька**

## Срэбнае вяселле

Сказала жонка:
— Мы паспелі
Пражыць з табою дваццаць пяць,
І заўтра срэбнае вяселле —
Нарэшце! —
Будзем адзначаць.
Дык чым яго адзначым зранку?
Малітвай? Песняю якой?
— Не, лепш хвілінаю маўчання, —
Муж, уздыхнуўшы, мовіў ёй.

**Мікола Алтухоў**



Мал. Я. Бусла




Даражэнькае Сэрцайка! Калі я выходзіла замуж, нішто не прадвяшчала, што над маім жыццём пройдуць хмары. Муж быў малады і здаровы. Мы пачалі працаваць на гаспадарцы. Нарадзілася трое дзетак. Было каля іх працы, але спачатку мы ўсё рабілі зладжана, разам.

Калісь муж, стаміўшыся ад працы, прылёг у полі на мяжы адпачыць і не заўважыў, як заснуў. Заснуў моцным сном аратага, ды спаў на халоднай зямлі ранняй вясною некалькі гадзін. Ад часу, калі прачнуўся, і да канца сваіх дзён, быў хворы.

Што я нацярпелася за тыя пятнаццаць гадоў, цяжка апісаць. Гектараў шмат, працы поўна, дзеці яшчэ малыя, муж недалужны. Даводзілася рабіць і бабскую і мужчынскую работу. Усё было на маёй галаве. І ўвесь час дрыжала: устане сёння муж з пасцелі, ці не дасць рады і будзе бяздумна глядзець у столь, лежачы ў ложку... Не меў, бедалага, сілы.

Дык калі муж памёр, даруй мне Божа, я адчула нейкую дзіўную палёгку. Не-не, не падумай, быццам я цешылася, пазбыўшыся клопатаў. О не! Дзеці былі ўжо дарослыя, як кажуць, выхаваныя. Гаспадарка ў парадку. Дзе сама не дала рады, людзей наймала. Але амаль усё патрапіла рабіць, як сапраўдны мужчына. Ды і дзеці пасля дапамагалі.

Мужа я кахала і не магла ўжо глядзець, як ён мучыцца. Цяпер, ведала я, яму ўжо лёгка. Ну, і зараз жа пачалі да мяне сватацца кавалеры. На працягу пару гадоў было іх трое. Усе вясковыя людзі. Усе нябрыдкія, адзін — удавец, двое былі яшчэ нежанатыя. Баялася я, што ізноў звяжуся з селянінам, а ён захварэе і пакіне гаспадарку на мяне. Проста, калі я думала пра гэта, агортваў мяне страх. І ўсім я адмаўляла, хаця жыла адна, бо дзеці былі ўжо на сваім.

А пасля ўсё пайшло, як па масле. Запрапанавалі мне працаваць гаспадыняй у ксяндза, ды толькі даволі далёка ад дома. Парафія была нават не суседняя, а за некалькі дзесяткаў кіламетраў. Што мяне трымала дома? Гаспадарку і так перапісала я на дзяцей, сама жыла за атрыманую рэнту. Куды мне ўжо было гаспадарыць?! За сваё жыццё я ўжо нагаспадарылася. Носам ужо мне гаспадарка вылазіла.

Як на крылах, паехала я ў свет. Працы не баялася. Я ж была да яе прывычная. А ў пробашча было вельмі прыемна. Трэба было прыбраць, памыць, зрабіць пакупкі ды наварыць яму і некалькім маладым ксяндзам.

На другі дзень прыйшоў паглядзець, хто там прыехаў, мясцовы арганіст. Як прыйшоў, так і прысохлі мы адзін да другога. Так мне спадабаўся, як ніводзін з тых, што сваталіся да мяне. Удавец, як і я. Свой дом. Дзеці ўсе вучаныя, на добрых пасадах. Але што мяне заваражыла адразу, дык гэта яго ўсмешка. Шчырая, адданая. І вось ужо год, як мы ходзім з арганістам. І хачу табе сказаць, што мне там непатрэбны яго дом (свой жа, мураваны, пакінула). Я бахвотна жыла ў сваім пакоі, дзе жыву (там побач ёсць і ванны пакой), але хачу выйсці за гэтага чалавека замуж.

Ну, сорам прызнацца, але закахалася я на старыя гады. Мне ўжо хутка пяцьдзесятка, а вось з агарнуўшымі мяне пачуццямі не магу зладзіць. І ён мяне кахае. Калі выехала я ў санаторый, дык званіў мне раз на два дні. Не скажу, і пробашч мне званіў, пытаўся, як у мяне са здароўем. Ну, Сэрцайка, само ж разумееш, што і маё здароўе ўжо не такое моцнае. Дасталася мне ў жыцці! Мне прыемна, што пра мяне тут так дбаюць. Але адно мяне непакоіць, што ксёндз глядзіць не надта прыхільным вокам на мае адносіны з арганістам. У пэўны момант, даруй мне Божа, мне здалося, што ён нават крыху зайздросны. Баюся, што, як захачу выйсці за арганіста, то яшчэ пазвальняе нас з працы. Што рабіць?

**Ганна**

Ганна! Ксяндзы таксама людзі і могуць насіць у сэрцы розныя пачуцці. Мог і ён закахацца, як арганіст, але можа быць зайздросны нават і з тае прычыны, што ты прысвячаеш нескаму больш увагі, чым яму. А ён жа ўзяў цябе да сябе на працу.

Думаю, што варта выйсці замуж, калі кахаеш чалавека і няма вялікіх перашкод. Ксёндз вас не звольніць, бо мог бы зрабіць гэта ўжо даўно. Бадай, на працягу года толькі сляпы не заўважыў бы, што вы „ходзіце".

**СЭРЦАЙКА**